# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №22

## Лістапад 2018

### Нумар прысвячаецца 100-годдзю скančэньня І-й сусьветнай вайны

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*З 2018 года выходзіць два разы на год*

*Атава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс **"КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ"** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **"КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ"** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net

**Рэдакцыя часопіса:**

*Заснавальнік і рэдактар* Пётра Мурзёнак

*Сябры рэдакцыі* Наталія Баркар

Зінаіда Гімпелевіч

Вольга Іпатава

Вікторыя Казлова

Сяргей Панізьнік

Галіна Туміловіч

*Атава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Наступны 23-ці нумар часопіса выйдзе ў красавіку 2019 года*

*Прадмова рэдактара да 22-га нумара часопіса*

**Добры дзень дарагія чытачы!**

11 лістапада 1918 года скончылася першая сусьветная вайна.

11 лістапада 2018 года ў Парыжы чалавецтва адзначыла гэты стагодні юбілей.

Пра падзеі гэтай ахвярнай для людзей вайны напісана шмат гістарычнай і мастацкай літаратуры. Не заглыбляючыся ў апублікаванае, я проста вырашыў прыпомніць - што мяне звязвае, хоць нейкім чынам, з тымі даўнішнімі сумнымі падзеямі. Адразу падумаў пра сваіх дзядоў і іх сем'і, на жыццё якіх прыпаў той зусім не радасны час; кароткія нататкі "Памятаючы продкаў" вы знойдзеце напачатку часопіса.

Здавалася б, прайшло цэлае стагоддзе, калі перасталі грымець гарматы як на еўрапейскім кантыненце, так і па ўсіх кутках нашай зямлі, а памяць людская не можа забыць той страшнай вайны. Тым больш, што за гэтыя 100 год адбылася яшчэ адна вайна – ІІ-я сусьветная і шмат іншых, не такіх маштабных. Як быццам чалавецтва вывучыла ўрокі з тых войнаў ХХ-га стагоддзя - заключаны розныя мірныя пагадненьні, ваенныя дамовы, напісаны мемарандумы – а пагроза новай ІІІ-й сусьветнай вайны стаіць на парозе.

І гэты парог, гэта мяжа паміж ваюючымі мірамі зноў паўстае на беларускай зямлі. Беларусь апынулася, як і раней, у эпіцэнтры барацьбы паміж Усходняй\Еўразійскай і Заходняй цывілізацыямі. Мы прытрымліваемся ідэі, што Беларусь разам з Украінай, складаюць Заходне-славянскую цывілізацыю, якая існуе з 13-14 стст. Сёння Украіна з баямі вырываецца з абдымкаў расійскай імперыі, а вось Беларусь маскавіты хочуць "перацягнуць" бліжэй да Уральскіх гор і пакінуць там яе магчыма назаўсёды – у Еўразійскай цывілізацыі.

Спробы сёняшняга ўраду праводзіць многавектарную знешнюю палітыку, дыверсіфіцыраваць гандлёвыя патокі, упіраюцца ў ціхія і грозныя дзеяньні Расійскай імперыі. Сапраўды, Расія можа ў любы момант паставіць беларускі народ на калені, зрабіць Беларусь-краіну калоніяй, суб'ектам РФ – ці то перакрыўшы доступ да энэргіі (нафта, газ, АЭС), ці то запусціць "зялёных" чалавечкаў. Падзеі апошніх месяцаў сведчаць аб узрастаючай напружанасьці паміж Беларусьсю і Расіяй, а спробы праводзіць нейкія тактычныя гульні з Расіяй вельмі небяспечныя і могуць кепска скончыцца, не вызначыўшы стратэгічных мэтаў для беларускай нацыі.

Так, у сярэдзіне кастрычніка 2018 года на рэгіянальнай канферэнцыі ў Магілёве сп. Лукашэнка кажа сп. Пуціну, што Магілёў гэта ну амаль што зусім расійскі горад, праз тыдзень на сустрэчы са сп. Парашэнка ён амаль тое ж заяўляе, што Гомель, ну, гэта амаль што украінскі горад. У тым жа месяцы, за нечаканай фразай памочніка сакратара па нацыянальнай бясьпецы ЗША сп. Мітчэла, што Грузія, Украіна і нават Беларусь (?!!) могуць быць фарпостам супраць імперыялістычнай палітыкі Расіі, паследавалі дзве супрацьлеглыя заявы сп. Лукашэнка: а) калі ў Польшчы будзе размешчана амерыканская база, то і мы (з Расіяй) вымушаны будзем нешта ў сябе размясціць; б) пасля прыезду амерыканскіх аналітыкаў у канцы кастрычніка пайшлі фразы аб значнасці еўрапейскай бяспекі і важнай ролі ў гэтым ЗША. І гэта ўсё толькі на працягу двух тыдняў. А месяц перад гэтым у Беларусь прыязджаў міністр абароны Расіі сп. Шойгу і заключаў у Беларусі нейкія чарговыя мілітарныя дамовы. Без дапамогі з боку заходніх краін зберагчы нейтральнасць і незалежнасць Беларусі будзе вельмі цяжка і нават немагчыма.

У сувязі з вышэйсказаным рэдакцыя вырашыла размясціць нядаўна апублікаваны на англійскай мове артыкул пра месца Беларуска-украінскай або Заходне-славянскай цывілізацыі сярод іншых субцывілізацый Заходняй цывілізацыі. У артыкуле вядзецца навуковы дыспут пра недапушчальнасць падзелу паміж Артадаксальнай\Еўразійскай і Заходняй\Лацінскай цывілізацыямі базуючыся на рэлігіі – праваслаўе-каталіцызм.

Сп. Аляксей Федарэнка ў сваім артыкуле дзеліцца досьведам свайго знаходжаньня ў Мексіцы падчас двух-месячнага навучальнага курса па рэстаўрацыі і кансэрвацыі камня і ўсіх вырабаў з яго. Такія курсы рэгулярна праводзяцца пад эгідай UNESCO. На гэты раз курс быў арганізаваны ў прыгарадзе Мехіка, у манастыры Чурубуска, які быў пабудаваны на месцы былога дагішпанскага паселішча. Аўтар апавядае як пра бытавыя пытаньні жыцьця ў мексіканскай сталіцы, так і робіць кароткі гістарычны экскурс ў падзеі, што адбываліся ў гэтай мясцовасці у 16-19 стст.

Эсэ сп. Юрася Шамецька прысвечана развагам аб беларускай эміграцыі ў сучасны перыяд. Аўтар прыходзіць да высновы, што эміграцыя ў перыяд глабалізацыі уяўляе сабой рух людзей да лепшага жыцця. Аўтар дзеліцца сваімі думкамі аб прычынах міграцыі сваёй сям'і, задаецца пытаннем "А ці варта было з'язджаць?", расказвае аб высокім узроўні цывылізаванага жыцьця ў Канадзе, аб сваёй адказнасці і ўзаемаадносінах з "карэннымі" канадыйцамі, аб сваё непарыўнай сувязі з радзімай і аб сваёй беларускасці.

Часопіс заўжды з радасцю чакае матэрыялы з радзімы. У гэтым нумары, як і ў папярэднім, мы атрымалі цікавыя матэрыялы з Пастаўшчыны, якія даслаў сп. Ігар

Пракаповіч, вядомы краязнаўца, настаўнік, паэт і пісьменнік. Сп. І. Пракаповіч займае актыўную пазіцыю у выхаванні дзяцей, іх любові да роднага краю, у іх пазнаньні гісторыі сваёй малой радзімы. На гэты раз ён апісвае экспедыцыю са школьнікамі ў прыродна-гістарычны комплекс “Крыжоўкі”, размешчаны каля азёр Доўжа і Варанец на мяжы з Мядзельскім раёнам. У выніку праведзеных даследаваньняў удалося сабраць дадатковы матэрыял і вызначыцца з магчымым стварэньнем турысцка-экскурсійнага маршрута.

У раздзеле, прысвечанаму падзеям з культурнага жыцьця беларускіх суполак, падаецца інфармацыя аб святкаваньні 70-годдзя Згуртаваньня беларусаў Канады, аб спектаклі, прысьвечанаму Ларысе Геніюш, які прайшоў у Таронта ў красавіку 2018 года, аб паэтычна-музыкальнай вечарыне ў Атаве ў верасьні і выданьні кнігі вершаў Пётры Мурзёнка “Колеры”, публікуюцца запрашэньні на розныя святы “Камаедзіца”, “Пакровы”, “Дзяды”, дасланыя сп. Алегам Рудаковым з Іркуцка. Тое што робіць сп. А. Рудакоў у Іркуцку варта прыкладу для многіх беларусаў не толькі ў замежжы, але і на радзіме. Мы ведаем, што шмат культурных, традыцыйных сьвятаў праводзіцца ў розных кутках Беларусі – часопіс “Культура. Нацыя” з радасьцю будзе публікаваць інфармацыю аб такіх падзеях беларускага жыцьця.

У паэтычнай частцы часопіса змяшчаюцца “Менскія вершы” Юрася Шамецькі і паэма “Бела Русь”, Пётры Мурзёнка.

Часопіс “Культура. Нацыя” вельмі ўдзячны сябру рэдкалегіі сп. Сяргею Панізьніку за дасылаемыя, каштоўныя матэрыялы, дапоўненыя архіўнымі, унікальнымі здымкамі. У гэтым нумары мы публікуем яго нататкі “На беразе жыцця, на беразе Дзвіны”, пра міжнародную экалагічную экспедыцыю, арганізаваную ў 1988 годзе Васілём Цімафеевічам Якавенка – празаікам, публіцыстам, грамадскім дзеячам. Матэрыял гарманічна ўзбагачаны здымкамі з той падзеі. Сп. С. Панізьнік даслаў таксама матэрыялы, прысьвечаныя 180-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Вельмі ўзрушана чытаецца пісьмо сп. Вольгі Грыцук, землячкі паэта С. Панізьніка, якое ён атрымаў 5 год таму назад, калі сп. В. Грыцук адзначала сваё 90-годдзе. Цяпер, сп. С. Панізьнік віншуе сп. В. Грыцук з 95-годдзем. Часопіс “Культура. Нацыя” далучаецца да гэтага віншавання, зычыць сп. В. Грыцук усяго найлепшага, і далучае ў нумар часопіса копію пазначанага пісьма сп. В. Грыцук. Сп. С. Панізьнік даслаў яшчэ іншыя юбілейныя матэрыялы – да 85-годдзя з дня нараджэння Ніны Янсанэ і да 75-годдзя з дня нараджэньня мастака Валерыя Дзевіскібы.

Прыемнага чытаньня. Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса

*18 лістапада 2018 года, Атава*

*Editorial* ***(magazine"CULTURE, NATION", November 2018, issue 22, p.8-10)***

Dear friends,

On November 11, 1918, the First World War ended.

On November 11, 2018, the mankind commemorated the centenary of this event in Paris.

The sacrifice of people during the war described in numorous historical and artistic literature. Do not touching all those published, I just decided to recall what connects me, at least in some way, with these past sad events. At once, I thought of my grandparents and their families who had to live at that not a joyous time; short notes "Remembering Ancestors" you will find at the beginning of this issue.

It would seem that hundred years has passed after the guns stopped booming both on the European continent and in every corner of our planet, but the human memory cann't forget that terrible war and its consequences. Especially because in those 100 years, there were another war – II-nd World War and many others in not a such scale. It appears the mankind learned the lessons of the twentieth century wars - signed various peace agreements, military agreements, written memorandum - and the threat of a new III-rd World War is at the door yet.

And this borderline between the fighting worlds again stands on the Belarusian land. Belarus is, as before, in the midst of a struggle between East \ Eurasian and Western civilizations. We adhere to the idea that Belarus, together with Ukraine, make Western-Ruthenian civilization that has existed since 13-14 centuries. Today, Ukraine is fighting to escape from the clutches of the Russian empire, but Belarus Muscovites want to "drag" closer to the Ural Mountains, and leave it there perhaps forever - in the Eurasian civilization.

Attempts of the current Belarusian government to provide a multivector foreign policy, and to diversify trade flows run into the silent and menacing actions of the Russian Empire. Indeed, Russia may put the people of Belarus to its knees at any time - to invert Belarus country to Belarus colony like a subject of the Russian Federation by blocking access to energy (oil, gas, nuclear), or importing "green" men. Recent events show the increasing tension between Russia and Belarus, and the attempts to carry out some kind of tactic games with Russia are very dangerous and can be finished badly without defining strategic targets for Belarusian nation.

As example, in the middle of October 2018 at the regional conference in the city of Mogilev Mr. Lukashenko says to Mr. Putin that Mogilev is … well, almost entirely Russian city, a week later at the meeting with Mr. Poroshenko, he states almost the same saying that Gomel … well, it's almost a Ukrainian city. In the same month, an unexpected phrase, by the US Assistant Secretary of National Security Mr. Mitchell, that Georgia, Ukraine and even Belarus (?!!) can be an outpost against Russian imperialist policies followed by the two opposing statements of Lukashenko: a) if American military base will be placed in Poland, then we (with Russia) will be forced to post something in Belarus; b) after the arrival of the American analysts at the end of October, he talked about the importance of the European security and the important role of the United States. And all this happened only during two weeks. A month before, the Russian defense minister Mr. Shoigu came to Belarus and signed some regular military agreements. It is evident that without help from Western countries it will be extremely difficult or even impossible to protect the neutrality and independence of Belarus.

In connection with the above editorial board decided to place the recently published article in English by P. Murzionak about the place of the Belarusian-Ukrainian or Western-Ruthenia civilization among other sub-civilizations of the Western civilization. The paper debates the inadmissibility of the division between Orthodox \ Eurasian and Western \ Latin civilizations based on religion – Orthodoxy versus Catholicism.

Aliaxey Fedarenka, in his article, shares his experience being in Mexico-city during a two-month training course on the restoration and conservation of stone and all its products. These courses are held regularly under the auspices of UNESCO. At this time the course has been organized in a suburb of Mexico City, in Churubusco monastery, which was built on the site of the former settlement before Spanish era. The author tells about everyday life in the Mexican capital, and makes a brief historical excursion into the events that occurred in this area in the 16-19 centuries.

Essay of Yuri Shametska devoted to arguments about the Belarusian emigration in modern times. The author concludes that emigration in the period of globalization is the movement of people for a better life. The author shares his thoughts about the reasons of his family migration, asks "And was it worth to go?", talks about the high level of civic life in Canada, about his responsibilities and relationship with the "indigenous" Canadians, of his close connection with homeland and his Belaruskasc.

The magazine is always happy waiting for materials from the homeland. In this year, as in the previous one, we received interesting information from Pastavy region sent by Igar

Prakapovich, a well-known local historian, teacher, poet and writer. I. Prakapovich takes an active role in raising children with their love for their land and with their knowledge of the history of his small homeland. This time, he describes an expedition with students in the natural and historical complex "Kryzhouki", located near the lake Douza and Varanets bordering Myadzel district. As a result of the research it was able to collect additional material and to determine the possible creation of tourist routes.

In the section devoted to the events of cultural life of Belarusian organizations, a number of information is provided: about the celebration of the 70th anniversary of the Canadian Belarusian Association (ZBK), about performance dedicated to Larissa Heniyush, which was held in Toronto in April 2018, a poetic and musical party in Ottawa in September and presentation of book of poems “Kolery” (“Colours”), about various holidays in Irkutsk, "Kamaedzitsa", "Cover", "Santa", sent by Aleg Rudakou. What makes Mr. Rudakov in Irkutsk is an outstanding example for many Belarusians not only abroad but also at homeland. We know that a lot of cultural, traditional festivals held in different parts of Belarus - the magazine "Culture. Nation" will be happy to publish any information about these Belarusian events.

The poetry section of the issue contains "Minsk poems" by Yuri Shametka, and poem "Belaya Rus", by Piotra Murzionak.

The magazine "Culture. Nation" is very grateful to the editorial board member, Sergey Paniznik for his valuable materials, supplemented by archival, unique pictures. In this issue we publish his notes "On the shore of life, on the bank of Dzvina" – about the international ecological expedition in 1988 organized by Vasily T. Yakavenka, novelist, publicist, public figure. The material harmoniously enriched with photos from the event. S. Paniznik also sent materials on the 180 anniversary of the birth of Kastus Kalinouski. He provided as well a very touchy letter from Wolga Grytsuk he received 5 years ago, when W. Grytsuk celebrated her 90th anniversary. Now, S. Paniznik congratulates his compatriot, Mrs. W. Grytsuk with 95th anniversary. The magazine "Culture. Nation" joins to these congratulations wishing W. Grytsuk all the best, and attaches to the issue a copy of this letter. S. Paniznik sent other materials - to the 85$^{th}$ anniversary of Nina Jiansane, and to the 75th anniversary of the birth of the artist Valeryj Dzeviskiba.

Please, send your comments and remarks to the address: chasopis.sakavik@hotmail.com
*Wishing you pleasant reading.*
*The magazine Founder and Editor,*
*Piotra Murzionak*
*November 18, 2018, Ottawa*

*Артыкулы*

**Пётра Мурзёнак: Памятаючы продкаў. Да сканчэньня I-й сусьветнай вайны**

Напісаць гэтыя радкі мяне падштурхнула падзея, інфармацыя аб якой з’явілася паўсюдна і шмат разоў, на радыё, на тэлебачанні, у інтэрнэце, і аб якой я сам добра ведаў – 100-годдзе сканчэньня ваенных дзеяньняў I-й сусьветнай вайны, якое прыпадае на 11 лістапада 2018 года. Падумалася, што такая падзея мусіць быць асьветлена ў нашым часопісе “Культура. Нацыя”. Хоць падзея гэта – вайна, не вельмі суседзіцца са словам “культура”, аднак, дакладна, адпавядае, слову “нацыя”. Бо беларуская нацыя апынулася непасрэдна ўключанай, як тэратэрыяльна, так і ўдзелам саміх беларусаў, у бойку паміж Расійскай імперыяй і Германіяй.

Мяжа барацьбы гэтых дзяржаў пралягла заўважнай у маім дзяцінстве – па нашых землях, дзе жылі мае бацькі. Мы, дзеці, лазілі па бетонных бліндажах, збудаваных на лініі фронта, якая праходзіла па невялікіх рэчках Спарыца, Вараноўшчына, у непасрэднай блізасці ад нашай вёскі Дварчаны. А на самім ускрайку вёскі Дварчаны існавалі могілкі нямецкіх салдат – выцэментаваныя крыжы з надпісамі па нямецку, а ў цэнтры могілак стаяў вялізны камень з высечанымі літарамі (відаць нейкаму высокаму ваеннаму чыну). На вялікі і прыкры жаль, тыя могілкі паступова зніклі. І не таму, што зараслі травой, а таму, што нашы вяскоўцы (па звестках) нават забіралі гэтыя крыжы на фундамент сваіх забудоў (?!).

Відаць так адносіліся да ворагаў у той час – у 70-90-я гады. Вельмі спадзяюся, што такое не магло б здарыцца цяпер. І не таму, што палепшыліся адносіны з Германіяй, а таму, што, яшчэ раз спадзяюся, зьмянілася стаўленьне нашых людзей да чужых ахвяраў чужой для людзей вайны.

Свае ўражаньні аб такіх даўнішніх падзеях вырашыў звязаць з тым, што я ведаю, хоць і не з вялікімі дэталямі, а менавіта расказаць пра гэтую вайну праз лёс маіх дзядоў, Мурзёнка Сільвестра Ігнатавіча (1985-1992) і Мажэйка Генрыха Францавіча (1885-1945). Мой дзед па бацькоўскай лініі, Сільвестр Ігнатавіч, нарадзіўся ў вёсцы Сямёнавічы (цяпер Шаркаўшчынскага раёна). Вядома, што ён скончыў 5 класаў царкоўна-прыходскай школы, што на той час было высокім узроўнем адукацыі. Дакладных звестак пра яго працоўную дзейнасць не ведаю, аднак, магу дапусціць, што яна была звязана з зямлёй, з сельскай гаспадаркай.

Дакладна, вядома, што дзяцюком ён ганяў плыты з дрэвам у Рыгу, па рацэ Дзісенцы, а пасля па Заходняй Дзвіне. Такая даўней была практыка – зімой валіць лес, вясной яго сплавіць і зарабіць грошай.

Вельмі прыкра, што я пачаў цікавіцца лёсам і жыцьцём дзядоў даволі позна. І гэтыя атрыманыя звесткі былі вынікам хутчэй не мэтанакіраваных намаганьняў, а хутчэй выпадковымі, звязанымі з простым жаданьнем падоўжыць размову падчас нечастых сустрэч. Дакладна не прыпомню, калі гэта было – аднак дзеду было ўжо за 80 – калі я атрымаў ад яго звесткі пра той час – І-ю сусьветную вайну.

Я мяркую, што маштаб той вайны дакладна быў невядомы простым салдатам, якіх гналі на фронт мільёнамі вялікія сілы, каб даказаць сваю вярхоўнасць. Усё ж, дзед мне расказаў, што ён быў забраны ў Расійскую армію ў 1915 годзе, г.зн.калі яму было роўна 20 год. Чаму ў расійскую, дык гэта зразумела, бо беларусы былі калоніяй імперыі, жылі на тэрыторыі яе паўночна-заходняга краю.

Але я быў вельмі ўражаны тым, як добра ён памятае падзеі таго часу. Ён распавядаў мне, што амаль два гады правёў у акопах пад Баранавічамі, дзе служыў сувязістам. Вядома, што лінія фронта доўга не змянялася, бо відаць у дзяржаў скончыліся сілы, і яны не маглі прасунуцца на колькі кіламетраў у адзін ці другі бок. Тым больш, трэба нагадаць, што Германія змагалася яшчэ і на заходнім фронце. Мой дзед добра памятаў імёны сваіх камандзіраў і іншыя падзеі тых часоў, якія на жаль не засталіся запісанымі мной на пісьме. Да прыкладу, ён расказваў, як на фронт у канцы вайны прыязджаў камісар Бубноў для агітацыі ў Чырвоную армію, ён добра памятаў Мінск тых часоў, расказваў як яны маршыравалі па вуліцы Захар’еўскай.

Ніжэй змешчаны здымак майго дзеда ў ваеннай форме, пры шаблі. Здымак быў зроблены ў красавіку 1918 года, так пазначана дзедавай рукой на адвароце. Далейшы яго лёс таксама быў няпросты. Відаць, захоплены бальшавіцкімі ідэямі “Зямлю - сялянам”, ён трапляе ў Чырвоную армію, змагаецца на паўднёвым напрамку, як сувязіст, у арміі Будзённага супраць Врангеля. Адным з яркіх яго ўспамінаў быў эпізод, калі іх невялікая група ехала па стэпу, на пагорак вылецелі пару коннікаў, праз нейкі час на іх неслася аж сотня праціўнікаў – ну ўсё, гэта быў канец ... Аднак, раптам, з другога боку, ляціць яшчэ адна сотня, цяпер, чырвоная, ідзе бой ... Мой дзед застаецца жывым... - і я разам з ім.



Мурзёнак Сільвестр Ігнатавіч
(*Мінск, красавік 1918 г.*)

Дзед вяртаецца дадому, а там, ужо не Расія, аднак і не Беларусь, а Польшча. Яшчэ не ведаю, чаму так позна, але ў 90-я гады мой дзед быў узнагароджаны медалём за ўдзел у грамадзянскай вайне. Асноўныя моманты жыцьця майго дзеда я адлюстраваў у паэме "Сказ пра Сільвестра", якую можна знайсьці ў сеціве на нашым сайце ў секцыі "Літаратура".

Другі мой дзед па мамінай лініі, Мажэйка Генрых Францавіч (1885-1945) нарадзіўся ў мястэчку Свенцяны Ковенскай губерні (цяпер Швенчёніс, Літва). Пасля таго як у 1900 годзе трагічна загінуў яго бацька, яго маці, мая прабабуля, Варвара Кліпа, сабрала сваіх дзяцей і рушыла ў Рыгу. На той час многія беларусы з'язджалі ці то ў Вільню, якая была на адлегласці ў прыблізна 120 км ад нашых краёў (заходняя частка цяперашняй Віцебскай вобласці), ці то ў Рыгу – крыху больш за 300 км.

Вайна застала майго дзеда працуючым токарам на заводзе "Фельзер і К", які быў заснаваны ў 1874 годзе. У 1914 годзе гэты завод выпускаў па ліцэнзіі "MAN" дызелі для прамысловых прадпрыемстваў, электрастанцый, для караблёў рачнога і марскога флота.



Мажэйка Генрых Францавіч
(*Рыга, здымак зроблены да 1910 г.*)

У 1915 годзе ўвесь завод разам з персаналам і сем'ямі быў эвакуяваяны ў Ніжні Ноўгарад, які ўжо ў 1916 годзе пачаў выпуск прадукцыі на ваенныя пратрэбы. Наша сям'я мае архіўны здымак з таго часу, на якім сярод групы працаўнікоў мы распазнаём свайго дзеда. У 1922 годзе завод быў перайменаваны ў завод «Двигатель революции» (цяпер ОАО РУМО). Аднак, сям'я дзеда не дачакалася гэтага часу і ў 1919 года рушыла дадому - з цяжкасцямі, у вагонах, праз Маскву, Германію, Літву, з шматлікімі прыгодамі прыехала на радзіму. І таксама, як мой дзед Сільвестр па бацькоўскай лініі, сям'я майго дзеда Генрыха (Ганэрыка) апынулася ўжо не ў Расіі і ні ў Беларусі, а ў Польшчы.

Відаць, што добра зрабілі, бо па звестках, напрыклад, усе людзі латышскага паходжаньня, якія працавалі на гэтым заводзе, пазьней былі растраляны як шпіёны. Такім чынам, рашэньне майго дзеда ехаць на радзіму зберагло магчымасць нарадзіцца мне і адчуваньне вось такой выпадковасці і неперарыўнасці можа ўсхваляваць любога зямнога чалавека.

11 лістапада 1918 года стаўся годам спыненьня вайны. Аднак, умовы, якія дыктавалі краіны пераможцы, прывялі да новага падзелу ў Еўропе, у прыватнасці да стварэньня новых дзяржаў (Чэхія, Сербія, Фінляндыя, і г.д.) ці аднаўленьня незалежнасці іншых (Польшча, Літва), аднак не пакінулі месца для нашага краю. На жаль, ні сярод адных, ні сярод другіх не аказалася маёй роднай Беларусі. Нягледзячы на абвяшчэньне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25

сакавіка 1918 года ў Мінску, якая праіснавала 9 месяцаў ва ўмовах нямецкай акупацыі, яна не была прызнаная краінамі-пераможцамі, вялікай сілай, якая перакраіла карту Еўропы.

І вось да сёньня беларусы мусяць даказваць сваё права быць роўнымі сярод еўрапейскіх краін, не азіраючыся на мінулае, паланізацыю, русіфікацыю, войны і камунізм. Лёс нашых людзей, беларусаў, маіх продкаў, яшчэ 100 год таму дыктаваўся знешнімі сіламі. Апынуўшыся ў віхуры страшэннай вайны, я веру, яны годна няслі чалавечнасць, і спрабавалі як мага выжыць у тых нязносных умовах. Я шчыра кланяюся ім, што яны змаглі гэта зрабіць, што ім падвязло, і што яны маглі на нейкі час мірна пажыць, у чым была несумненна і іх вялікая заслуга.

**Piotra Murzonak: Remembering Ancestors. The First World War**
***(magazine "CULTURE, NATION", November 2018, issue 22, p.11-15,*** www.sakavik.net ***)***

On November 11, 1918, the First World War ended. On November 11, 2018, the mankind commemorated the centenary of this event in Paris. The autor recalls what connects him, at least in some way, with these past sad events, specifically, about his grandparents and their families who had to live at that not a joyous time.

**Piotra Murzionak: Does Belarusian-Ukrainian Civilization Belong to the Western or the Latin Civilization?**

**Пётра Мурзёнак: беларуска-украінская цывілізацыя належыць да заходняй ці лацінскай цывілізацыі?**

*Артыкул надрукаваны ў часопісе “Comparative Civilizations Review”*: *Vol. 78, Spring 2018, pp.40-54.*

Як быццам чалавецтва вывучыла ўрокі з войнаў ХХ-га стагоддзя - заключаны розныя мірныя пагадненьні, ваенныя дамовы, напісаны мемарандумы – а пагроза новай III-й сусьветнай вайны стаіць на парозе. І гэты парог, гэта мяжа паміж ваюючымі мірамі зноў паўстае на беларускай зямлі. Беларусь апынулася, як і раней, у эпіцэнтры барацьбы паміж Усходняй\Еўразійскай і Заходняй цывілізацыямі. Мы прытрымліваемся ідэі, што Беларусь разам з Украінай, складаюць Заходне-славянскую цывілізацыю, якая існуе з 13-14 стст. Сёння Украіна з баямі вырываецца з абдымкаў расійскай імперыі, а вось Беларусь маскавіты хочуць “перацягнуць” бліжэй да Уральскіх гор і пакінуць там яе магчыма назаўсёды – у Еўразійскай цывілізацыі. У артыкуле вядзецца навуковы дыспут пра недапушчальнасць падзелу паміж Артадаксальнай\Еўразійскай і Заходняй\Лацінскай цывілізацыямі базуючыся на рэлігіі – праваслаўі-каталіцызме.

## Introduction

The designation of a modern country or group of countries to one or another civilization bears two aspects. If we keep in mind the example of Belarus, the first one means that such a definition built on a thorough analysis of the historical development of the Belarusian nation will contribute to the natural selection of the country's geopolitical position in the universe. On the other hand, Belarus’ rich civilization heritage helps her to sort out the developmental trends of modern global civilization / cultures and harmoniously integrate them.

For a long time, namely from the 18th century, thanks to historical mythology compiled by Russian politicians and scientists promulgated around the world, Belarus, like Ukraine, has been viewed and considered as part of Russian / Eurasian / Orthodox

civilization (hereafter the Eurasian civilization). Most Western scholars also take for granted such Russian historical myths as:

- a trinity of three Eastern Slavic peoples: Belarusian, Russian and Ukrainian;
- belonging and continuity of the historical heritage of Kievan Rus' to Russia; and
- the Slavic character of the Muscovy, the Russian state.

Obviously, these three main Russian myths preclude a vision of free and independent Belarusian and Ukrainian nations, and moreover, the existence of a unique WesternRuthenian civilization that protected Belarusians and Ukrainians for centuries and continues to do so today. The notion of a Western-Ruthenian civilization, in our opinion, corresponds to the greatest extent to the historical memory and the content of this modern civilization.

**Eastern Slavs form two civilizations – Western-Ruthenian and Eurasian**

Detailed evidence to support the idea of the existence of the Belarusian-Ukrainian/ Western-Ruthenian civilization can be found in recently published articles (P. Murzionak, 2013; 2015). Delineation of Eastern Slavs to form two civilizations began in the 9th century and was determined by various factors including the distinctive features of their tribes; the natural conditions of the East-European Plain and the Eurasian steppe; assimilation of the local tribes; internecine wars between the lands and principalities; the influence of the Mongol Empire and the advent of the Grand Duchy of Lithuania (GDL). GDL saved a substantial part of the Eastern Slavs who lived on the territory of modern Belarus and Ukraine from "strong Eurasian influence."

According to A. Shakhmatov (1919), Slavic tribes from the Elbe and Vistula regions moved from West to East in two groups. One group, gradually moving to the North, North-East and East, occupied the territory of modern Belarus and the regions of Pskov, Novgorod and Smolensk. The other group, moving to the South and South-East, populated in a gradual way the territory of modern Valyn, Ukraine and the Carpathians. Thus, the Slavs, more precisely the Eastern Slavs, occupied the territory which historians later called Kievan Rus.

Slowly but surely, a division arose between the Slavs who lived in what are now Ukraine and Belarus, and the Slavs who migrated to the North-Eastern lands (the territory of the future Muscovy). One reason for this division was the assimilation of the "Great Russian Slavs" with Finno-Ugric peoples living in the North-East (Mordvinians, Mari, Vepsians, Meshchera, and Murom) (the first wave of assimilation). The fact that the first

principality in the North-East principality (Suzdal) emerged only in 1157, nearly two centuries after the emergence of Kiev and Polatsk principalities, points to a slow migration and assimilation of the Eastern Slavs with the local FinnoUgric population. It is possible to assume that one of the reasons for this slow migration was a progressive feudal fragmentation of Kievan Rus. Slavs' migration and their assimilation with the Finno-Ugric and Turkic peoples is proved by a significant difference in the distribution of the genetic material and the presence of its gradient from North to South and from West to East in the North-East region, from which a modern Russia started to develop (B. Malyarchuk et al, 2004; O. Balanovsky et al, 2008).

But on the other hand, the collapse of Kievan Rus was the prerequisite of a further ethno-national division of the Eastern Slavs. It led to the development of two Eastern centers with their own specific features: the Principality of Polatsk (the precursor of the future Belarusian state) and the Valyn-Galich principality (the predecessor of the future Ukrainian state). The distinct character and independence of both principalities became even stronger.

One of the key factors dividing Eastern Slavs in two civilizations, Belarusian-Ukrainian (Western-Ruthenian) and Eurasian, was the Mongol-Tatar invasion. The dividing line between the two civilizations becomes evident if one considers the territory captured by the Mongol Empire. If the territory of Belarus and Ukraine remained mainly free from the invaders from the Eurasian steppe, the Muscovy State was captured by the Mongols and had a vassal status for over two centuries, from 1240 to 1480. During the rule of the Golden Horde in the 13th-15th centuries and later, during the period of expansion of Muscovy in the 16th-19th centuries, it was the second wave of assimilation of Muscovy Slavs with Turkic peoples that further distanced them from Belarus's and Ukraine's Slavs.

Belarusian and Ukrainian Slavs retained their identity and civilization in the Grand Duchy of Lithuania (GDL), which effectively united the Eastern Slavs in the 13th-15th centuries after the breakup of Kievan Rus. This kind of unifying role could not be performed by Muscovy for a good reason—at that time it was a vassal state of the Mongol Golden Horde. The GDL ceased "eurasiation" of a large part of the Slavs, the future Belarusians and Ukrainians. Until the end of the 18th century the Belarusians made up a significant part of the GDL population and later of the Rzeczpospolita/the Commonwealth of Two Nations, and they did not belong to Muscovy or to the Russian Empire.

**Evidence of Belarusians belonging to Western civilization and culture**

A brief description of the reason for the creation of two civilizations by Eastern Slavs was given above. This part provides evidence that the Belarusian-Ukrainian civilization has many features of Western civilization and can be attributed to it.

Given that the Belarusian-Ukrainian civilization existed for eight centuries, starting from the 13th century, while Eurasian civilization was just taking its shape at this time, it can be assumed that it is nearly three centuries older than the Eurasian one. This difference can be explained by two reasons: 1) by slow migration of the Slavs in the lands of the North-East region—the future territory of the Muscovy tsardom, as evidenced by the much later formation of the Vladimir-Suzdal principality (1157) compared to the Polatsk (960) and Kiev (882) principalities; and 2) by the status of the principalities in the North-East region, which were vassals of the Golden Horde for nearly 240 years (1240-1480).

For centuries the population of Belarus and Ukraine, assimilated with Balts or Sarmatians, has lived in the same territory, and today is mainly ethnically homogeneous. In contrast to the Belarusians and Ukrainians, the North-Eastern Slavs assimilated with the Finno-Ugric tribes (the first wave of assimilation), and later with the Turkic peoples (the second wave of assimilation), and the area of their settlement, as a result of the capture of other nations, increased dozens of times to form the territory of modern Russia.

The main difference between the populations of the two civilizations in our time can be observed by calculating the ratio of the Slavs to other ethnic groups (30:1 and 24:1 for Belarus and Ukraine, and 4.8:1 for Russia) (P. Murzionak, 2015, p. 67). These data were supported in a recent study of the history of the exchange of genetic material between the nations of the world (G. Hellenthal et al., 2014). It was shown that among eight nations from the East European group, only the Eastern group, Russian and Chuvash, have similar types of genetic material exchange, and their predecessors came from two sources, from South-East Asia and from Europe. It is interesting that in the Russian and Chuvash group that exchange occurred twice, once in the period before 500 BCE, and the second time during the rule of the Golden Horde. Both exchanges are responsible for 10% of the DNA in Russians, and approximately for 35% in Chuvash's. For the rest of the countries surveyed (Belarusians, Bulgarians, Hungarians, Greeks, Lithuanians, Romanians) such an exchange took place once, and only about 2- 4% of the DNA was derived from Asia (for Belarusians the figure was 3.6%, with the remaining genetic material originating from the North-European part—about 65%— and from the South—about 30%).

The geographical belonging of Belarusians to Europe during the GDL and Commonwealth time is not in doubt as the Eastern border of Europe in the 17th and 18th centuries was at the same time the Eastern border of the GDL, i.e., between the GDL and Muscovy. In the second half of the 18th century, Empress Catherine II inspired the creation of Russian historical myths, which were later used to justify the seizure and accession of the Belarusian and Ukrainian peoples to the Russian Empire. Attempts of Muscovy and the Russian Empire (the Eurasian civilization) to do it before had no critical success. Muscovy was attached to Europe geographically only in the early 19th century when Europe's borders were pushed back to the Ural Mountains (see the description of its boundaries by the French scientist M. Malte-Brun) (W.H. Parker, 1960).[1]

In the 15th - 17th centuries the GDL defended European values from Eurasian ones. Numerous wars provoked by Muscovy against the GDL under the guise of Orthodox population protection were not successful because people of the GDL defended various civilization values including religious tolerance. Since the end of the 15th century, as soon as the domination of the Golden Horde ended due to self-disintegration, and to the middle of 17th century, there were nine major wars between the GDL and Muscovy: the 1st Muscovy-Lithuanian War - 1492-1494, 2nd - 1500-1503, third - 1507-1508, 4th - 1512-1522, 5th - 1534-1537, the Livonian War - 1558-1583 , the war of Muscovy with Rzeczpospolita - 1605-1618, the Smolensk war - 1632-1634, and the Northern war - 1654-1667. Thus, for the period from 1492 to 1667, i.e. for a period of 175 years, 80 years were the years of war, when Belarusians fought directly with the Muscovites. Indeed, it can be called a clash of civilizations. There were many victims. During the Northern war alone1.5 million Belarusians were killed (G. Saganovich, 1995).

There is enough scientific evidence for the designation of Belarusian-Ukrainian civilization to Western civilization (N. Bekus 2011; Z. Kohut 2001; V. Kuplevich, 2013; R. Szporluk, 2001). For example, V. Kuplevich (2013) identifies 15 key factors which point to the European nature of Belarus, including the 1,000-year history of Belarus; the presence of European civilizational processes in Belarus (the Renaissance, the Reformation, the Counter-Reformation, the Union of Brest, the Enlightenment); the presence of European institutions (Parliament, the Sejm, the Magdeburg rights, town halls); and modern state-building processes, as well as the integration of Belarus into the European political, cultural and economic life. For example, the Magdeburg rights held sway in many Belarusian cities of the GDL: Brest (1390), Grodno (1391), Slutsk (1441),

[1] The idea of the eastern borders of Europe by the Ural Mountains belonged to the Swedish officer P-J. von Stoltenberg, expressed in the 18th century (M. Bassin, 1991).

Polatsk (1498), Minsk (1499), Braslau (1500), Navahradak (1511), Mahilou (1577), Pinsk (1581), Vitebsk (1597), Druia (1618), Orsha (1620), and others. This is in contrast with Muscovy, where there was no such European institution.

The influence of European processes of the Reformation and Counter-Reformation on the religious life in the GDL in 16th - 18th centuries is reflected in numerous facts (A. Kotliarchuk, 2015). The Orthodox, Catholic and Greek-Catholic denominations coexisted in the GDL; however, their influence among the various sectors of society was unequal. Thus, during the second half of 18th century the majority of the Belarusian population (about 70%) joined the Uniate Church, while a considerable part of the Belarusian elite kept faith with Catholicism and a smaller part followed Orthodoxy.

Muscovy, and later the Russian Empire, constantly expanded and conducted a colonial policy towards its neighbors. The colonial mentality of the Russian elite and the public before and now grew up as a state policy, and in the past two centuries was glorified by Russian poets and writers, such as A. Pushkin ("Journey to Erzerum during the campaign in 1829”, "Caucasian captive"), M. Lermontov ("A Hero of Our Time"), L. Tolstoy ("War and Peace"), A. Solzhenitsyn ("Cancer Ward"), V. Rasputin ("Siberia, Siberia"), and many other Russian writers largely of the Russophile environment (E. Thompson, 2000). This would impact the mentality of the enslaved peoples, in particular, Belarusians and Ukrainians in 19th and 20th centuries. The fruits of the colonial policy of russification, which continues today in the form of the "Russian world," are easy to see looking at the use of native languages and the spread of the Eurasian idea via media channels in Belarus and Ukraine, and, finally, by the open aggression of Russia against Ukraine.

200 years of Russian domination in Belarus have led to significant changes in the outlook of the Belarusian people. Comparing political and economic reforms which were carried out in 1991 in Latvia and Belarus, it was observed by D. Meadows (2012) that “… Belarusians took a divergent view, as Belarusian political-cultural worldviews saw themselves as historically linked culturally to Russia, Eurasia and Orthodoxy.”

At the same time, the author notes that

“[t]his does not mean that Belarusians lacked a cohesive national identity, but instead that their historical political-cultural worldviews did not deem it necessary, nor expedient to move away or break off from Belarus’s traditional cultural realm. Thus, what National Identity arguments miss is that Belarus has its own coherent and unique national identity, which simply contains different ideas, contrary to normative definitions constructed by many observers.”

Agreeing with the author's latter statement, we think that some changes in the outlook of the Belarusians, encouraged by Russia, are not irreversible. Considering the process of development of the Belarusian and Ukrainian societies in space and time, from the Polatsk and Valyn principalities until the end of 18th century, one can argue that in terms of civilization, Belarusian-Ukrainian civilization is significantly different (ethnically, religiously, mentally) from Eurasian civilization, and in many ways should be referred to as a European or Western civilization. A temporary inclusion of the Belarusian and Ukrainian nations into the Russian Empire for two centuries and their contemporary struggle for a separate place in the world only underscores the fact that a civilization in a dynamic, cyclical development may experience periods of prosperity and decline. However, given the long duration of historical cycles, we'd like to think that the Belarusian-Ukrainian civilization gradually enters the phase of recovery today.

In the 20th century, Belarus and Ukraine have had twice the chance to become full-fledged independent countries, in both cases after the collapse of empires: the Russian empire in the beginning of the 20th century, and the Soviet Union at the end of 20th century. Though the first chance was not fully successful, as both countries remained Russian colonies, the second chance seems to be more real now, although emancipation is not such an easy task. In the situation with Ukraine, it involves a direct military confrontation with the Russian empire. As for Belarus, it seems that its leaders, especially recently, do not quite force or take decisive steps to distance the country from the formidable neighbor peacefully.

**Determination of Belarus position among Western sub-civilizations**

It seems that a number of features define civilization together – (language, ethnicity, religion, culture, and economy), and that civilizations develop in space and time. The Belarusian-Ukrainian civilization is no exception despite the very slow progress on the part of Western researchers in understanding the individual role of Belarus and Ukraine among Slavic nations. This view is changing very slowly, mainly due to researchers' geopolitical or religious preferences, conservatism and inaction in the revision of established Russian historical myths as well as a strong pro-Russian lobby.

According to S. Huntington (1993), there are eight civilizations: Western, Orthodox, Islamic, Chinese, Indian, Japanese, Latin, and African countries in sub-Saharan Africa. Many scientists adhere at most to the same classification, while A. Targowski (2009) introduces two modern developing civilizations with a hybrid, global culture.

However, many scholars, for reasons not completely understood, ascribe Belarus and Ukraine to the Eurasian civilization. For example, in Kuzyk's and Yakovets' monograph (2006) two countries, Belarus and Ukraine, can be seen on the maps of the future

development of the Eurasian (Russian) civilization in 2050 . The rationale for the inclusion of these countries in the Eurasian civilization, according to the old Russian tradition, is not given. The position of the Russian authors is rather clear as they adhere to the ideas of past and present Eurasists, with the colonial character of these ideas having distinct geopolitical overtones.

Classical Eurasist traditions, unfortunately, are very often accepted by Western researchers a priori, which is largely due to the ignorance of the ideas of Belarusian and Ukrainian researchers who had fairly limited access to the international arena in the Soviet times. Taking historical Russian myths at the face value, Western researchers follow them building on their foundation theories that do not take into account the existence of essentially three separate East Slavic nations, Belarus, Russia and Ukraine. All three East Slavic nations are generally assigned by them into Eurasian civilization.

It appears that the inclusion of Belarusians and Ukrainians into Eurasian civilization, in most cases, is carried out on religious preferences. Both S. Huntington and A. Targowski assign Belarus and Ukraine, along with Russia, Bulgaria and Moldova, to Eurasian civilization. Only a small portion of both Belarus and Ukraine enters into Western civilization as shown on S. Huntington's map, who sees the existence of just such a border between East and West over the last 500 years (cited from P. Eberhardt). 2 It seems that if the Europeanization process took place in 17th and 18th centuries simultaneously with the classification of civilizations, there is no doubt that Belarus and Ukraine would be adjoined to European or Western civilization. However, the division between East and West, Orthodoxy and Catholicism / Protestantism began to take shape scientifically in the 19th century thanks to both Russian and Western philosophers and politicians.

Discussing the new concept of the division of Europe between Latin and Byzantine civilizations, P. Eberhardt (2016) adds an even smaller part of Belarus and Ukraine to Latin civilization than those shown on the map of S. Huntington. This territorial division of Belarus and Ukraine on religious principles generates itself a possible conflict between the Orthodox and Catholics. Interestingly, according to P. Eberhardt the "latin" part of Belarus is almost the same as a fictional country of "Veyshnoryya", which was “a target country” during the recent Russia-Belarus military exercise "Zapad-2017" (“West-2017”).

It seems that the designation of any country to a certain civilization, even if it was carried out on the basis of religious preference, would have to take place within a historical context. Here we need to provide more detailed evidence on the variety of religious situations in Belarus and in Ukraine between the 10th and 18th centuries. The

стагоддзямі і вынікі гэтага працэсу мы бычым сёння. Канада, нягледзячы на тое, што падтрымлівае розныя вайсковыя блокі, застаецца стрымліваючым фактарам у сусветнай палітыцы.

Гісторыю пра перамогу 1812 года мне расказалі Холіс і Кейт – нашыя знаёмыя канадыйцы. Яны вельмі ганарыліся гэтай перамогай. Холіс – трымаў музычную студыю, а Кейт – прафесійны фатограф. Продкі яе прыехалі з Ірландыі ў 18-стагоддзі. Калі яны прыходзілі да нас у госці, дык заўсёды цешылі нас народнымі фальклорнымі ірландскімі песнямі: аб бядотным і цяжкім лёсе, аб гаротнай і пакутлівай працы, пра любоў і не любоў. “Зусім, як у беларусаў,” - думаў я, калі слухаў іх песні... Жыццё нашых продкаў, было зусім іншым: больш жорсткім і суровым.

Рэлігійнасць у Канадзе - асабістая справа і выбар кожнага. Рэлігійнасць, як і прыватнае жыццё, не абмяркоўваецца і не навязваецца; тут няма ўсеагульнай рэлігійнай палітыкі. Ёсць шмат пратэстанцкіх, каталіцкіх, праваслаўных, масульманскіх цэркваў. Усё гэта існуе пад блакітнымі нябёсамі жыцця, мірна і безканфліктна. Канада – мульцікультурны кангламерат розных канфесій і розных культур.

У Канадзе - як і ў Беларусі - дзве дзяржаўныя мовы, якія існуюць і развіваюцца, падтрымліваюцца дзяржавай, нягледзячы на тое, што ангельская з’яўляецца дамінантнай. Але няма ніякага параўнання з моўнай палітыкай у Беларусі, дзе носьбіты адной мовы падаўляюць іншую моўную прастору. У Канадзе пра моўную “дэскрымінацыю” нават не магчыма падумаць.

Яшчэ адна крыніца, каб зразумець і больш даведацца пра канадыйцаў – літаратура, яна адлюстроўвае душу і дух нацыі. І таму, калі хочацца знайсці нешта асабліва канадыйскае, я пачынаю чытаць апавяданні Эліс Манро. Правінцыяльныя ( маецца на ўвазе правінцыя Антарыо - тут жывуць героі Манро) гісторыі аб чалавечых адносінах і пачуццях. Героі Манро - звычайныя і прыемныя людзі, якіх магчыма спаткаць на вуліцы; мы таксама жывем у правінцыі Антарыо, таму, магчыма, яшчэ лепей можам зразумець герояў Манро. Цяпер канадыйка Манро - нобелеўскі літаратурны лаурэат (2013 год). А беларуска Святлана Аляксіевіч атрымала нобелеўскую прэмію на два гады пазней за Манро (2015). І ў гэтым Беларусь і Канада апынуліся побач.

Пасля дваццаці год пражывання ў Канадзе стала зразумелым, што сталіца Канады, горад Атава, стала родным домам. “Менск і Атаву яд’наю стала, арол і рэверс

адной манеты. Ю.Ш.” У летнія вечаровыя дні тут прыемна пасядзець ля рэчкі, пакупацца, сустрэць заход сонца, адчуць рамантызм і прыгажосць канадыйскай прыроды. Атрымліваць задавальненне – гэта тое, што патрабуецца ў жыцці, павольна ласкаючыся свежым паветрам і пяшчотным сонцам, якія, здаецца, узаемна радуюцца нашай распаволенасці і добраму настрою. Тут шмат такіх вечароў, калі, адкінуўшы мітусню і трывогі будзёнасці, мажліва пагрузіцца ў медытацыйную лагоднасць наваколля, адчуць яго імкненне зрабіць цябе больш шчаслівым. А Эпікур, зразумела, меў рацыю, навучыўшы нас, што шчасце — гэта адсутнасць пакут і турбот.

***

Апынуўшыся у Канадзе, я стаў сапраўдным беларусам.

Беларуская мова - нечакана, нават для мяне самаго - быццам прачнулася ў маёй свядомасці, ажыла і я зрабіўся беларускамоўным. Магчыма прычына была ў вялікай адлегласці ад моцнай рускай культуры, якая - як ні старайся – на жаль, дамінуе ў сёняшняй Беларусі, паглынаючы ўсе сферы чалавечага жыцця. Раней да беларускай мовы я адносіўся з пяшчотай і павагай, але, як большасць беларусаў, не стараўся ставіць заслону рускамоўнасці. Апынуўшыся па-за межамі татальнай рускай прасторы, запісаная на генетычным узроўні беларуская мова хутка ажыла, адрадзілася, а трыгер беларускай свядомасці ўпэўнена спрацаваў.

Лічу, што беларусы здольныя знайсці шлях адраджэння мовы, і гэты пераход мог бы адбыцца спакойна і бяз болю, толькі б была магчымасць адчыніць беларускія школы, вярнуць мову “медыям” і падтрымаць тых, хто выкарыстоўвае мову. “Даволі вярэдзіць раны! І без таго заўважаю — глядзяць, як на эмігранта, на мяне, калі размаўляю,” – пісаў паэт Леанід Дранько Майсюк пра сёняшні стан беларускай мовы. Было б неабходна ўвесці на Беларусі сапраўднае двухмоўе. І тут канадыйскі вопыт суіснавання моў мог бы быць карысным. Напрыклад, каб атрымаць сур’ёзную пасаду ў дзяржаўнай установе ў Канадзе, патрабуецца пацверджанае сэртыфікатам веданне двух моў. Таму вялікая колькасць канадыйцаў зацікаўлена ў веданні двух дзяржаўных моў. Яны імкнуцца аддаць дзяцей у школу з паглыбленым вывучаннем двух моў; прайсці дадатковыя моўныя курсы; палепшыць узровень ангельскай ці французкай самастойна.

Ды яшчэ да моўнага пытання дадам тое, што беларусы маюць ужо вопыт нацыянальнага Адраджэння, якое пачыналася ў 90-я гады дваццатага стагоддзя.

Гэта быў актыўны і палкі працэсс, беларусы пачалі ўжываць сваю мову ўпэўнена і смела. Шчыры парыў беларускасці 90-х гадоў быў сапраўдным цудам, які ў хуткім часе спыніўся па волі імперскай настальгічнай палітыкі, а перспектывы беларускага Адраджэння прыпыніліся. Лічу, што адным з накірункам дзейнасці сёняшней беларускай эміграцыі з’яўляецца захаванне беларускаскай мовы і культуры ў замежжы.

Калі мы апынуліся за межамі Беларусі, цікавасць да Беларусі не страцілася, а наадварот, павялічылася. Гэта супярэчнасць тлумачыцца проста, бо нават жывучы на адлегласці ў тысячы кіламетраў, беларуская прастора духоўна прыцягвае да сябе, рашуча не адпускае, і быццам сама стараецца не страціць усталяваную сувязь. Таму з упэўненасцю можна сказаць, што Беларусь сёння патрэбна нам самім настолькі ж, як і мы самі патрэбны Беларусі. Узаемная прыцягальнасць і архітыпічная сувязь – усе гэта, здаецца мне ўжо не знікне, бо створана на працягу сотняў гадоў пакаленнямі продкаў, а механіка памяці, запісаная нібыта на флэшку, захоўвае гэтую сувязь.

У Канадзе выпала магчымасць пабудаваць сваю, толькі табе зразумелую беларускую прастору. Мы нараджаемся, а жыццё, быццам прысвойвае нам асабісты ідэнтыфікатар, які за гады дзяцінства і юнацтва, нібы геном ДНК, робіць нас прадстаўнікамі той зямлі, дзе мы нарадзіліся. У маім выпадку - я стаў беларусам, і мая беларускасць застанецца са мной назаўсёды. Дзе б я не жыў.

Беларусь застаецца неабходнай і прыцягальная сферай, якая вабіць сваёй роднасцю і нязломленасцю, сваім духам і чысцінёй. З Канады Беларусь бачыцца такой, якой яна павінна быць. Яна быццам чакае ўвагі і твайго ўдзелу, спрыту, твайго жадання дапамагчы і падзяліцца тым, што ты ведаеш аб гэтым свеце. Таму эміграцыю лічу сваім асабістым шляхам, ці падарожжам новага адкрыцця краіны, у якой я нарадзіўся, якая адпусціла мяне, каб даць магчымасць знайсці нешта новае і якаснае, добрае і сапраўднае, а потым падзяліцца тым, што знойдзена ў дарозе. Лічу, што шлях гэты мае сэнс і таму варты таго, каб па ім ісці.

І на гэтым шляху ты не адзін... Бо знаходзіш яшчэ безліч такіх самых беларускіх “рамантыкаў”, “добраахвотнікаў”, якіх таксама ў свой час паклікала дарога. Ты разумееш іх, яны разумеюць цябе. Разам прыемна і лягчэй пераадольваць цяжкасці і складанасці. У Канадзе мець шматлікіх беларускіх сяброў - гэта выратаванне і падтрымка. Мы прыехалі, калі ў Атаве жылі мае інстытутскія сябры. Падтрымка іх заўсёды была значнай і бескарыснай. Потым прыехалі яшчэ сябры, якіх я ведаў з юнацтва. З таго часу мы не губляем адзін аднаго, а толькі падтрымліваем

усталяваныя сувязі. Відавочна, што тут нам пашанцавала, бо кола сяброў, якія выраслі з табой у Беларусі – гэта надзейная падтрымка і дапамога.

Часта збіраючыся на беларускія святы, праводзячы час з беларускімі сябрамі, раптоўна ўзнікае адчуванне Радзімы. Канада быццам знікае, ты чуеш родную мову, слухаеш беларускія песні, і рэальнасць хутка набывае беларускія рысы, ператвараецца ў больш роднае і знаёмае. Твой беларускі дух быццам пералятае ў прасторы, і ты апынаешся ў месцы твайго дзяцінства, на Радзіме.

Можа гэта і быў сэнс эміграцыі – адшукаць беларускае асяродзе вартае тваіх мараў і разумення. Нажаль, па іроніі лёсу - гэта асяродзе аказалася далёка за межамі Беларусі. Але беларускае месца сёння ёсць: жыве і працуе, а ты дакладна ведаеш і з лёгкім сэрцам адчуваеш, што меў рацыю, калі выбраў шлях, які выдалася прайсці.

***

Калі аглянуцца назад і вярнуцца ў час збораў у Канаду, то можна сказаць, што мы нічога пра Канаду ня ведалі. Цяпер ведаем больш. Канада - гэта энергетыка пазытыву, упэўненасць мясцовых жыхароў, прыгажосць навакольнай прыроды, магчымасць адчуць шчаслівыя моманты свайго асабістага жыцця і зразумець, што нашае падарожжа ў Канаду было не дарэмным. Зараз толькі хочацца выказаць удзячнасць лёсу, за той цвярозы вопыт і бясцэнныя ўрокі, якія навучылі нас стаць лепшымі, моцнымі духам.

"Live is good" - нібы мантру часта паўтараюць канадыйцы. Цяпер мы таксама робім гэта, бо навакольны свет, сапраўды, прыгожы і дасканалы, - толькі трэба знайсці сваё месца, а па вялікім рахунку, знайсці саміх сябе і быць патрэбнымі гэтаму свету. Таму з надзеяй і аптымізмам глядзім у будучыню, у якой адлегласць – толькі частка рэальнасці, якую трэба пераадолець.

Жыццё наша працягваецца ў акрыленых думках і будзёных турботах, у прыкметных пульсацыях натхнення і хвілінах трывогі. Такое яно - жыццё. Маятнік лёсу адлічвае свае рухі ўпэўнена і незваротна. Жыццё - гэта толькі шлях, які пракладзены тонкімі сіламі існуючага. Мы ж у плынях адвечнага, быццам па нястомных хвалях, рухаемся, каб знайсці нешта сапраўднае і светлае, каб гэты свет зрабіць больш дасканалым і шчаслівым, і нашая эміграцыя - частка гэтага руху.

*Атава, жнівень 2018*

**Yuri Shametska: Emigration or movement that promotes life**
***(magazine "CULTURE, NATION", November 2018, issue 22, p.38-50,*** www.sakavik.net ***)***

Essay of Yuri Shametska devoted to arguments about the Belarusian emigration in modern times. The author concludes that emigration in the period of globalization is the movement of people to a better life. The author shares his thoughts about the reasons of his family migration, asks "And was it worth to go?", talks about the high level of civic life in Canada, about his responsibilities and relationship with the "indigenous" Canadians, of his close connection with homeland and his Belaruskasc.

*Краязнаўства*

**Ігар Пракаповіч: Экспедыцыя на “Крыжоўкі”**

Напрыканцы мінулага тыдня, 26-27 ліпеня 2018 года, удзельнікі краязнаўчага гуртка “Terra incognita” Пастаўскай гімназіі разам з сябрамі Таварыства беларускай мовы здзейснілі двухдзённую экспедыцыю ў паўднёвую частку Пастаўскага раёна. Мэта вандроўкі - вывучэнне прыродна-гістарычнага комплекса “Крыжоўкі” каля азёр Доўжа і Варанец, на невялікай тэрыторыі якога змяшчаецца шэраг рэдкіх і ўнікальных для Беларусі аб’ектаў. Удзельнікі экспедыцыі даехалі на аўтобусе да вёскі Чарняты, а потым рушылі па Старамядзельскай дарозе ў напрамку на вёску Пятроўшчына. На шляху давялося фарсіраваць раку Мядзелка, выпрабоўваць моц ног асцём скошанай збажыны, прадзірацца праз беларускія “джунглі” з зарасніку вольхі, лазы і крапівы пад пагрозлівым гулам камароў і аваднёў.



Пасля ўсталявання лагера і абеду група зрабіла радыяльны выхад, падчас якога былі абследаваны руска-германскі могільнік часоў I сусветнай вайны, папуляцыя капавых асін, паміраючы дуб-волат, былая гідратэхнічная сістэма Варанец-Мядзелка з падмуркам млына, бабровая “імперыя”, маляўнічыя берагі возера Варанец.









Вечарам удзельнікі экспедыцыі адпачывалі: гулялі ў валейбол, купаліся, спявалі песні пад гітару, гулялі ў "стратэгію".






На наступны дзень вывучалася ўсходняя частка прыродна-гістарычнага комплексу "Крыжоўкі". Былі абследаваны з фіксацыяй дакладных каардынат праз навігатар такія адметныя аб'екты як германскі ўмацаваны раён І Сусветнай вайны з сістэмай траншэй, акопаў і жалезабетонных бліндажоў, месца былога сельскагаспадарчага вучылішча, падмурак маўзалея-капліцы У. Друцкага-Любецкага, помнік на месцы бою часоў ІІ Сусветнай вайны, унікальная сістэма з трох невялікіх рознаўзроўневых Сарочынскіх азёр.




Вечарам група вярнулася ў Паставы.

У выніку праведзеных даследаванняў удалося сабраць дадатковы матэрыял пра цікавыя аб'екты комплекса "Крыжоўкі", вызначыцца з ніткай турысцка-экскурсійнага маршрута, які плануецца бліжэйшым часам уладкаваць.

Ігар Пракаповіч, кіраўнік экспедыцыі

**Igar Prakapovich: Expedition to "Kryzhouki" (Pastavy region, Belarus)**
***(magazine "CULTURE, NATION", November 2018, issue 22, p.51-56,*** www.sakavik.net ***)***

In this year, as in the previous one, we received interesting information from Pastavy region sent by Igar Prakapovich, a well-known local historian, teacher, poet and writer. I. Prakapovich takes an active role in raising children with their love for their land and with their knowledge of the history of his small homeland. This time, he describes an expedition with students in the natural and historical complex "Kryzhouki", located near the lake Douza and Varanets bordering Myadzel region. As a result of the research it was able to collect additional material and to determine the possible creation of tourist routes.

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

**70-годдзе Згуртаваньня беларусаў Канады**

27 кастрычніка 2018 года ў Беларускім грамадка-рэлігійным цэнтры, у Таронта, адбылася ўрачыстасць з нагоды 70-годдзя Згуртаваньня беларусаў Канады. На гэту падзею сабралася даволі шмат народу, асабліва была заўважна шматлікая прысутнасць дзяцей разам з іх бацькамі, якія па-сапраўднаму і шумна стваралі фон святкаваньню. Як аказалася пазьней, дзеці былі ўдзельнікамі канцэрта, і прадстаўлялі юнацкую групу фальклёрнага гурта "Яваровыя людзі" (кіраўнік сп. В. Кавалёва). На свята прыехала сп. І. Сурвіла, старшыня Рады БНР, а таксама дэлегацыя з Атаўскага аддзела ЗБК.

Па традыцыі свята пачалося з урачыстай часткі, якая складалася з прамоў сп. І. Сурвілла, сп. А. Лявончанка, старшыні ЗБК, зачытаных віншаваньняў ад Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына", ад Беларуска-Амерыканскага З'адзіночання, ад сп. З. Пазьняка, лідэра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі, з выступаў былых старшыняў ЗБК, сп. Н. Дробінай (1998-2001), сп. П. Мурзёнка (2001-2005), сп. Д. Ельяшэвіча (2005-2009, 2014-2017), сп. В. Шаўчэнка (2009-2014). Прадстаўленыя тэксты выступаў змешчаны ніжэй. Найбольш значнай падзеяй урачыстай часткі стаўся відэафільм, прысвечаны гісторыі ЗБК (падрыхтаваны сп. В. Шаўчэнка).

Пасля перапынку, падчас якога прысутныя маглі падсілкавацца смачнымі стравамі, падрыхтаванымі арганізатарамі адбыўся святочны канцэрт.

Шмат было сказана ўжо добрых слоў у адрас сп. Віялеты Кавалёвай, арганізатара і мастацкага кіраўніка фальклёрнага гурта "Яваровыя людзі". Не пабаюся сказаць, што юбілейны канцэрт, які цёпла і ўрачыста быў успрыняты публікай, гэта цалкам заслуга сп. Віялеты. А як інакш можна ўспрымаць узнёсласць і радасць ад выкананьня беларускіх песьняў дзеткамі, якія прыйшлі на сьвята. Смела і падрыхтавана тузін дзяўчатак і хлопчыкаў спявалі і захаплялі гэтым зал. Не менш авацый атрымалі і дарослыя выканаўцы гурта, якія не толькі стваралі многагалосны і святочны эфір у залі, а і яшчэ запрашалі патанцаваць побач з музыкам сп. Жвалікоўскім.

Пасля сканчэньня свята з радасьцю і сумам падумалася. Ну вось – 70 гадоў адзначаецца такое сьвята, людзі з Беларусі ўсё яшчэ мігруюць у пошуках лепшага жыцьця (сумна), і ў той жа час яны маюць магчымасць прыткнуцца да свайго, роднага далёка за мяжой (радасна).

 ISSN 2291-4757




*Дзіцячая група гурта ''Яваровыя людзі''*




*''Яваровыя людзі'' (мастацкі кіраўнік Віялета Кавалёва)*

**I. J. Survilla: VYSTUP NA SVIATKAVANNI JUBILEJU ZBK**

*Taronto, 27-ha kastryčnika 2018 h*

Dastojny Uladyka Sviataslau, Šanounyja hosci, Darahija Siabry,

Ad imia Rady Bielarskaj Narodnaj Respubliki, vitaju usich nas z Jubilejem Zhurtavannia Bielarusau Kanady.

Jak i uva usich inšych krainach, kudy los ich zakinuu, Bielarusy pavajennaj chvali imihracyi u Kanadzie chutka pasla svajho pryjezdu zjadnalisia, pierad usim kab razam pracavac na karysc bielaruskaha narodu i razam zmahacca za niezaležnasc Backauščyny.

Navat kali, u zaležnasci ad svaich palityčnych pohladau, tvaryli u krainie niekalki bielaruskich arhanizacyjau, usie jany byli viernymi idealam 25-ha Sakavika, usie staralisia stvaryc "svaju Bielarus" na čužynie. Ad samaha pačatku, zamiž zabiaspiečvac ulasnaje isnavannie, jany bralisia za zdabyču svaich sviatyniau i hramadzkich centrau. U adnym z ich my sviatkujem sionnia naš siamidziesiaty Jubilej.

Pakolki balšynia našych pieršych imihrantau, bielaruskich Kanadyjcau, adyjšli užo u lepšy sviet, chaciela-b paprasic Vas ušanavac chvilinaj maučannia ichnuju pamiac.

Dziakuju!

Chacia ja u hetaj zali zdajecca najstarejšaja siabrouka ZBK, pryjechali my z siamjoju u Kanadu dvaccac hadou pasla pieršaj chvali bielaruskaj emihracyji. Ale jašče uspieli paznac balšyniu "starejšych". Pismiennika Kastusia Akuku z siamjoj, Alesia i Olu Hrycukou, Dra Barysa Rahulu (jaki nikoli nie admaulau lačyc surodzičau i finansava pamahau Carkvie i Zhurtavanniu), našuju dentystku Raisu Žuk-Hryškievič, (jakaja arhanizavala usie kulturnyja emprezy u hetym centry i byla šmat razou staršynioj ZBK), jaje muža i Staršyniu Rady BNR Vincuka Žuk-Hryškieviča, Mikolu i Maryju Hanko, (jakija prysviačali uvies svoj volny čas bielaruskamu žycciu u Toronto), Kasciukievicau, Cielešau, Antona Markieviča, Mikolu Šusta, (jakoha vyraby z salomki vystaulalisia na usich bielaruskich vystaukach, i jašče visiac na scienach našaha centru), cudounuju siamju Valentyny i Michasia Paškievičau, Arsienia Monida, Barysa Kirku, nu i biezumouna Uladyku Mikalaja i šmat šmat inšych.

Kali my pryjaždžali z Atavy u Taronta, kab pamahčy našym “tutejšym” štosci sarhanizavac - u 1972-m hodzie byli u Taronta 12 razou, - zachaplalisia achviarnaj pracaj i patryjatyzmam našych surodzičau. Z Svajho boku, u Atavie, dzie my byli douhija hady adny - pradstaulali jak manli našuju hramadu na mižnarodnaj arenie. Aktyuna pravodzili “palityku prysutnasci” u hramadzkim žycci stalicy, kab usie viedali, što my isnujem.

Našaja hramada miela vialikaje ščascie kali pačali pryjaždžac u dzievianostyja hady emihranty z Bielarusi. Da nas pryjechali music samyja lepšyja, bo z samaha pačatku uklučylisia u bielaruskaje žyccio i pieraniali ad starejšych carkounyja i hramadzkija abaviazki.

Ja byla zachoplenaja na apošniaj Sustrečy Bielarusau Paunočnaj Ameryki u New Yorku videam našaj Staršyni Aleny Lavončanki, dzie jana raskazvala pra usio što Vy apošnim časam zrabili. Taksama užo niekalki razlou hladziela z zachaplenniem film Javoravych Ludziej, TO-TO-TO.

Usim Vam choču vykazac maju udziačnasc nia tolki jak Staršynia Rady BNR, ale i jak najstarejšaja siabrouka ZBK, jakaja tut prysutničaje.

Dyk jašče raz vinšuju usich vas z Jubilejem, žadaju cudounaha sviatkavannia i šmat hadou plonnaje pracy, pakul my usie razam nie adrodzim volnuju i demakratyčnuju našuju dziaržavu.

Žyvie Belarus!

Atava, 27 kastryčnika 2018 h. Ivonka Survilla

**Вольга Іпатава, ганаровы сябра ЗБК: Да 70-годдзя ЗБК**

Я успамінаю сваё першае знаёмства з Марыяй і Міколам Ганько каля Опернага тэатра ў Мінску, куды яныя абодва прыехалі, каб сваімі вачамі пабачыць як расце новая свабодная І незалежная Беларусь. Яны былі моцна ўзрушаныя і шчаслівыя – тое, за што яны марылі ў эміграцыі, здзяйснялася, станавілася рэальнасцю. Эміграцыя вярталася да сваіх каранёў, ў свой народ, чые правы на родную мову, на свой уласны шлях у гісторыі набывалі рэальнае здзяйсненне. Яны выглядалі шчаслівымі ад таго, што іх пазнавалі, да іх падыходзілі і віталі іх, як дарагіх гасцей. Людзі расказвалі пра свае ўражанні ад передач радыё «Свабода», ведалі многія імёны найбольш актыўных дзеячоў замежжа і было бачна як Марыя і Мікола адчуваюць сябе зъяднанымі са сваімі каранямі; калі нарэшце, праз многія дзесяцігоддзі, змаглі прыехаць на радзіму, раней для іх недасягальную.

Мы, беларускія літаратары, ведалі многіх з іх – па артыкулах, па выступленнях, але толькі ў 90-я гады змаглі пазнаёміцца з Сямействамі Жук-Грышкевічаў і Ганькоў, з Кастусём Акулай і Вольгай Грыцук, і з многімі другімі, хто ладзіў у далёкай Канадзе беларускае жыццё, выдаваў часопісы і газеты, будаваў і падтрымліваў беларускія цэнтры. Такія, як той, у якім мы сёння святкуем 70-годдзе Згуртавання беларусаў Канады і можам сабрацца разам, каб адчуць сябе часткай народа, які захаваў сваю ідэнтычнасць на пакручастых шляхах Гісторыі і ўпэўнена ідзе ў будучае, нягледзячы ні на якія перашкоды.

Беларуская эміграцыя ўнесла свой вялікі уклад не толькі ў культуру Беларусі, але перш за ўсё ў захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці. Ціск на урады дэмакратычных краін, перадачы па радыё “Свабода“, пратэсты эміграцыі супраць русіфікацыі ў Беларусі рабілі сваю справу і не давалі заглухнуць мове і культуры народа, які бараніў сваё права на незалежнасць, на захаванне здабыткаў нацыянальнай культуры, на сваё права «людзьмі звацца». Афіцыйныя выданні называлі эмігрантаў зняважліва”белбурнацы”(скарочана ад беларускія буржуазныя нацыяналісты), стараліся ўсяляк скампраметаваць найбольш выдатных дзеячоў эміграцыі. Але якраз пратэсты эміграцыі супраць русіфікацыі прымушалі афіцыйныя улады варушыцца і рабіць нейкія захады па захаванню мовы і беларускай культуры.

Кнігіі працы эмігрантаў, як амерыканскіх так і канадыйскіх, нягледзячы ні на якія забароны даходзілі да беларусаў, і перш за ўсё да беларускай інтэлігенцыі. І гэтая

падтрымка дапамагала і давала сілы нам каб супрастаяць ціску уладаў на ціхае знішчэнне беларускай мовы і культуры на Беларусі. Савецкія ўлады мусілі прыслухоўваца й да таго, пра што пісалі замежныя беларусы – пра звужэнне сферы беларускай мовы, пра закрыццё нацыянальных школ, пра татальную русіфікацыю.

Рознымі шляхамі даходзілі да радзімы і працы выдатных дзеячоў эміграцыі, і часопісы, якія там выдаваліся. Праўда, каб прачытаць іх, скажам, у нацыянальнай бібліятэцы, патрабаваўся афіцыйны дазвол, але яго давалі, праўда, даволі вузкаму колу асоб, у асноўным дзеячам культуры, якія прайшлі праверку на лаяльнасць.

Мы, хто цікавіўся эміграцыяй, усё ж маглі пазнаёміцца і з кнігамі Валянціны Пашкевіч, і Янкі Запрудніка, і Вітаўта Кіпеля. На паўночна-амерыканскім кантыненце выдаваліся сур'езныя навуковыя працы. І сярод іх – двухтомнік ”Беларуская мова”, “Беларуская падсавецкая літаратура”, “Запісы”, “Гараватка“ і многае іншае. Усе гэтыя працы натхнялі нас, беларускую інтэлігенцыю. Гэта былі як бы размовы са старэйшым пакаленнем яшчэ тых, неасавеччаных беларусау той старой загартоўкі.

Беларуская эміграцыя, ў тым ліку ЗБК, зрабіла многае. Яна пакінула пасля сябе цэрквы і культурныя цэнтры, якія працуюць і сёння, кнігі і галоўнае – дух свабоды і права чалавека на свабодны выбар. І тое, што нас беларусаў ведаюць у Канадзе і лічацца з намі - іх заслуга. Вялікі Дзякуй ім за гэта!

**Пётра Мурзёнак: Атаўскі аддзел ЗБК за апошнія 20 год**

Віншавальная прамова сп. Пётры Мурзёнка, старшыні Атаўскага аддзела ЗБК, старшыні Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Канадзе (БІНІМ)

**Добры вечар!**

**Высокавялебны Ўладыка Святаслаў! Шаноўная сп. І. Сурвілла, старшыня Рады БНР! Паважаныя сябры!**

70 год мінула з дня заснавання ЗБК - з гэтым юбілеем я шчыра вас віншую ад імя сяброў Атаўскага аддзела ЗБКі ад імя сяброў Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Канадзе!

У зробленых дакладах сп. І. Сурвіла, В. Іпатавай, прывітальным пісьме ад ЗБС "Бацькаўшчына", ужо былі прыведзены яскравыя прыклады дзейнасці старэйшых сяброў ЗБК ў Канадзе, асабліва, што тычыцца сяброў, якія належылі да Таронтаўскага ядра ЗБК. Атаўскі аддзел ЗБК быў заснаваны ў 1975 годзе і яго актыўнасць да прыезду новай хвалі эміграцыі, была звязана ў асноўным з актыўнасцю спадарства Івонкі і Янкі Сурвіллаў і іх дачок. Давайце шчыра прывітаем сп. І. Сурвілла, старэйшага сябра Атаўскага аддзела ЗБК, і ўспомнім таксама старэйшага сябра ўсяго ЗБК, сп. Вольгу Грыцук.

Хачу крыху спыніцца на дзейнасці ЗБК ў апошнія 20 год, калі прыехалі беларусы новай хвалі эміграцыі. Хачу шчыра сказаць, што калі я ехаў у Канаду, я не думаў, што прыйдзецца займець новыя знаёмствы з суайчыннікамі. На самай справе, калі я ўпершыню трапіў у Беларускі культурна-рэлігійны цэнтр у 1999 годзе, куды мяне прывяла сп. І. Сурвілла, я быў крыху здзіўлены атмасферай, якая там існавала. У той жа час я быў захоплены новым знаёмстам з выбітнымі, абсалютна свядомымі беларускімі асобамі, такімі як сп. Р. Жук-Грышкевіч, К. Акула, А. Монід, М. Ганько. Мне думаецца, што ў тыя часы прадстаўнікі старэйшай эміграцыі даволі асцярожна і нават з недаверам ставіліся да новапрыбыўшых, бо ў пэўнай меры не ведалі людзей з былога СССР.

Так атрымалася, што ў 2001 годзе на 38-м з'ездзе ЗБК ў Таронта не знайшлося лідэраў, якія б хацелі весці беларускую грамаду наперад. Упершыню, гэтую роль узяў на сябе прадстаўнік Атавы – я узначальваў ЗБК на працягу двух тэрмінаў з 2001 года. Я думаю, што ў станоўчы актыў у гэты перыяд можна аднесці

праведзеныя змены ў Статут ЗБК, яны, да прыкладу, дазвалялі быць сябрамі ЗБК не толькі беларусам, а і людзям іншых нацыянальнасцяў, якія падзяляюць з намі мэты і задачы ЗБК, правядзенне сумесных культуралагічных і палітычных акцый беларускіх суполак з Таронта, Атавы і Манрэаля, актыўны ўдзел ў сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі, узаемадзеянне з палітычнымі дзеячамі ў ЗША і ў Канадзе. Варта, да прыкладу, узгадаць, пікет каля беларускай амбасады і дэманстрацыю ў 2003 годзе ў Атаве, дэманстрацыю каля расейскай амбасады ў 2005 годзе таксама ў Атаве, у якіх прынялі ўдзел дзесяткі прадстаўнікоў Атавы, Манрэаля і Таронта.

Добра вядома, што сябры ЗБК як у Таронта, так і ў Атаве шмат робяць для таго каб прысутнасць беларусаў у Канадзе была заўважнай - гэта і традыцыйныя адзначэнні гадавін абвяшчэння незалежнасці БНР, святкаванне Купалля, Слуцкага збройнага чыну, канцэрты фальклорнага ансамбля “Яваровыя людзі”, дуэта “Кантабіле”, праца вэб-сайтаў, цяпер дадаліся курсы “Мова нанова”, і іншыя падзеі значныя для жыцця беларускай дыяспары.

Нягледзячы на шмат якія традыцыйныя мерапрыемствы і дасягненні хацелася б крыху спыніцца на некаторых пытаннях, над якімі яшчэ нам трэба шмат працаваць. Адным з такіх пытанняў з’яўляецца адсутнасць шырокага прадстаўніцтва ЗБК ў гарадах Канады. У тыя часы, калі нашы старэйшыя папярэднікі закладвалі ЗБК, беларускія асяродкі існавалі шмат ў Лондане, Антарыё, Гамільтоне, Вінніпегу. На жаль, мае спробы ў свой час, як старшыні ГУ ЗБК, заснаваць беларускія асяродкі, якія б належалі да ЗБК у Эдмантане, Вініпегу і ў Ванкуверы не скончыліся посьпехам па розных прычынах. Прайшло 15 год пасля гэтага, і наколькі я памятаю такія спробы з боку ГУ ЗБК амаль не прадпрымаліся. Да гэтага трэба дадаць, што 2 гады таму назад прыпыніла дзейнасць аргнізацыя беларусаў Квебеку, якая фармальна не належала да ЗБК, аднак, працавала ў многіх пытаннях разам з ЗБК.

Другой праблемай з’яўляецца недастатковая прыцягальнасць нашых асяродкаў для беларусаў, якія ўвесь час прыязджаюць ў Канаду. Паводле перапісу насельніцтва, праведзенаму ў Канадзе ў 2016 годзе, у Канадзе пражывае больш за 20 тыс. беларусаў, з іх звыш 8.700 ў Таронта і каля 1.000 ў Атаве. Паводле звестак з апошняга з’езда ЗБК, у нашых асяродках знаходзіцца прыблізна толькі 0.5% і 2.5% ад агульнай колькасці, адпаведна. Магчыма, што адной з прычын такой нешматлікай статыстыкі з’яўляецца і тое, што ЗБК да гэтага часу ня ёсць зарэгістраванай арганізацыяй у Канадзе.

У Канадзе зараз дзейнічаюць толькі два беларускія асяродкі, у Атаве і Таронта. Сябры Атаўскага аддзела ЗБК на апошнім з’ездзе ЗБК ў мінулым годзе складалі 36% яго дэлегатаў. Гэта значная доля ў агульнай структуры ЗБК. Кожны мог упэўніцца у сіле нашага аддзела па паспяховай арганізацыі і правядзенню 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (Атава, 3-5 верасьня 2016 года, гатэль Лорд-Элгін) і 100-годдзя БНР у будынку парламента Канады (11 сакавіка 2018 года).

Для таго каб кансалідаваць нашыя сілы ў Таронта і Атаве, Управа Атаўскага аддзела ЗБК выходзіць з прапановай правесці адзін з наступных з’ездаў ЗБК ў Атаве. Мы думаем, што правядзенне з’езду ЗБК ў Атаве будзе спрыяць яднанню нашых сіл, чаго Атаўскі аддзел ЗБК заўжды жадаў і жадае.

Мы шчыра зычым посьпеху сябрам ЗБК і іх сем’ям у будучыні. Верым, што ўдзел канадыйскіх беларусаў у розных беларускіх справах будзе спрыяць далучэнню нашай радзімы да сусьветных каштоўнасцей роўнасці, дэмакратыі і свабоды.

Жыве Беларусь!
*Атава, 21 кастрычніка 2018 года*

**Пётра Мурзёнак: “Вуліца Геніюш”**

Спектакль пад такой назвай адбыўся ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Таронта 14 красавіка 2018 года. Спектакль быў прысвечаны знакамітаму чалавеку, паэту і грамадскаму дзеячу – Ларысе Геніюш. Спектакль быў своеасаблівым працягам святкавання 100-годдзя БНР.

Беларусы Таронта пад кіраўніцтвам рэжысёра Валянціны Шаўчэнка рыхтаваліся да пастаноўкі спектакля на працягу некалькі месяцаў. Нягледзячы на шторм-галалёд, які абрынуўся на паўднёвую частку Антарыё і на сам горад, паглядзець спектакль прыйшо каля 60 гледачоў. Гэтаму спрыялі як абвесткі, разасланыя па па е-мэйлу, афішы, звычайныя сяброўскія кантакты, ну і канешне ж, цікавасць да самаго спектакля, якія не так часта ставяцца на сцэне цэнтра.

Трэба аддаць належнае як рэжысёру, так і артыстам – было відавочна, што яны грунтоўна рыхтаваліся і хваляваліся, што ў выніку вылілася ў цудоўнае эмацыйнае прадстаўленне. Яно для многіх адкрыла як саму асобу Ларысы Геніюш і яе незвычайны лёс, так і дазволіла пазнаёміць з яе творчасцю і вершамі. Спектакль доўжыўся на працягу адной гадзіны, падчас якога артысты напамяць дэкламавалі вершы, упэўнена чыталі тэксты. Было бачна, што кожны з артыстаў шчыра перажываў на сцэне моманты жыцця гераіні спектакля, цалкам ужыўшыся ў ролю. Гэта эмацыйная напружанасць перадалася і гледачам, што было заўважна па блеску іх вачэй, і як некаторыя з іх казалі, па адчуванні мурашак на скуры - настолькі трагічным быў лёс гэтай беларускай жанчыны – гераіні спекталя, і настолькі добра ён быў прадстаўлены артыстамі на сцэне.

Пасля заканчэння спектакля зал дружна ўстаў і вітаў артыстаў і рэжысёра моцнымі, удзячнымі воплескамі. Поспеху спектакля спрыялі касцюмы, дэкарацыі, асвятленне і тэхнічная аўдыё-відэа падтрымка. Спонсарамі спектакля выступілі доктар Р. Качаткоў, Згуртаванне Беларусаў Канады, і Беларускі інстытут навукі і мастацтваў у Канадзе. Абсалютна зразумела, што спектакль, прысвечаны Ларысы Геніюш стаўся значнай падзеяй у культурным жыцці беларусаў. У залі прысутнічалі гледачы не толькі з Таронта, але і з Манрэаля, Атавы, Ватэрлоо. Было б вельмі добра, каб гэты спектакль прадоўжыў сваё жыццё на гастролях, і каб яго пабачылі беларусы з іншых гарадоў Канады.

**Пётра Мурзёнак: Паэтычна-музыкальня вечарына ў Атаве**
*(23 верасьня 2018 года, Атава)*

Правесьці вечарыну планавалася загаддзя на сялібе Наталіі і Пётры Мурзёнкаў, у нядзелю 23 верасьня. Планы моцна зьмяніў тарнадо, які прайшоў у пятніцу, 21 верасьня, у непасрэднай блізасці ад месца правядзеньня. У доме не было электрычнасці, у нашых сяброў па суседству былі моцна пашкоджаны дрэвы (зламаны і павалены). Абмяркоўваўся нават варыянт адмяніць вечарыну, аднак, арганізатары ўсё ж вырашылі правесці яе, насуперак наступствам прыроды і з мэтай падтрымаць дух сяброў нашай беларускай суполкі і гараджан Атавы.

Вечарына прайшла ў доме сям'і Каралькевічаў, якія ласкава запрасілі зрабіць яе там, і якім мы з Наталіяй вельмі ўдзячны за гэта. На вечарыне прысутнічала каля 50 чалавек. Арганізатарамі вечарыны былі Беларускі інстытут навукі і мастацтваў у Канадзе (БІНІМ, Канада) і Атаўскі аддзел ЗБК.

У праграме вечарыны былі прэзентацыя паэтычнага зборніка Пётры Мурзёнка "Колеры", які выйшаў з друку ў выдавецтве "Кнігазбор" (Мінск) і музыкальныя кампазіцыі ў выкананьні Галіны Рэзаіпур і Алега Буевіча.

Вечарыну пачаў сп. Юрась Шамецька, кіраўнік паэтычнай секцыі БІНІМ, Канада. Вечарына прайшла на адкрытым паветры, пры добрым надвор'і. Уся падзея была знята сп. Аляксандрам Каралькевічам на відэакамеры і выстаўлена ў сеціва.




Пётра Мурзёнак выказвае шчырую падзяку непасрэдным удзельнікам і арганізатарам вечарыны – сп. Г. Рэзаіпур, сп. А. Буевічу, сп. Ю. Шамецька, сп. Іне Каралькевіч, сп. А. Каралькевічу, і безумоўна сваёй жонцы Наталіі.

**Алег Рудакоў: Інфармацыя аб прайшоўшым у Іркуцку святе "Камаедзіца"**

*Алег Рудакоў – кіраўнік Іркуцкага беларускага клуба «Крывічы» (Расія)*

Белорусский Народный Праздник, посвящённый пробуждению Медведя – "**Камаедзіца**" (состоялся в Иркутске 7 апреля 2018года)

*Пресс-релиз*

Иркутский Белорусский клуб «Крывічы» традиционно каждый год проводит большое оригинальное праздничное событие, с элементами народных игр, танцев, хороводов и старинных песен, посвящённых пробуждению Медведя.

Также на нашем Празднике парни-удальцы смогут поучаствовать в «Баруканьне» - борьбе по-медвежьи! Победитель получит титул – «Чемпион Камаедзіца – 2018» и ценный приз!!

Праздник состоится на Ершовской горе на склоне между заливом Ангары, пляжем «Якоби» и Клубом «Дикая лошадь».

**Собираемся к 11-30. Начало в 12 часов. Просим рассчитывать время и не опаздывать. Существует орг. сбор – 150 руб. с одного человека.**

Также к чаю на костре приносите что-то вкусненькое, желательно что-то из «лакомств» медведя: орехи, мёд, гороховую кашу, кисель из овса, морковку, и т.п. (Посуда у каждого своя).

На нашем празднике не бывает «зрителей». Все участники вовлекаются в активное действие. Вы сможете не только принять участие в играх, хороводах, весенних народных забавах, но и научится танцевать белорусские народные танцы. Наши опытные «крывічы» обучат каждого, включая детей с 5-летнего возраста.

Приходите!!

Независимо от национальности мы рады каждому участнику нашего Праздника!!!!

Алег Рудакоў. тел. +7-902-17-068-30

**Алег Рудакоў: “Пакровы” – старинный традиционный праздник беларусов!**

14 октября 2018 года активисты Иркутского Белорусского клуба “Крывічы” проведут в деревне белорусских переселенцев Тарнопаль Балаганского района традиционный праздник “Пакровы”

«Пакровы» (“Пакроў”) – рубежная дата в народном и земледельческом календаре беларусского народа. Праздник формировался ещё в дохристианскую эпоху и был связан с окончанием осеннего цикла хозяйственных работ. Именно к Обряду “Пакровы” необходимо было закончить все полевые дела, перапахать пашню, убрать в огороде.

После этого праздника Землю нужно “замкнуть” на Зиму. А все работы по хозяйству переходили с “поля” на “двор” (молотили зерно, начинали мелить муку, обрабатывали лён – делали с него “кастрыцу”, отсюда и название месяца – “октябрь”; по-белоруски – “кастрычнік», и т.п.). Также на «Пакровы» «ставили» коров в хлев, т.е. их уже нельзя было выгонять в поле.

Наши предки старались жить в гармонии с Природой. Они были внимательны к её особенностям и основным этапам развития. Название праздника «Пакровы» связано с тем, что обычно в этот день мог выпасть первый снег и покрыть землю своим белым «одеялом». У беларусов сложилось множество поговорок, присказок и пословиц. Большинство из них несли поучительный характер. Вот некоторые примеры:

- ✓ «Прыйшлі Пакровы, пытаюць, ці да зімы гатовы?”,
- ✓ “На Пакровы дай сена карове”,
- ✓ “Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю – сьнегам, ваду – лёдам, а дзяўчат – шлюбным чэпкам”,

Свадьбы наши предки также начинали «гуляць» после «Пакроваў». Это связано ещё и с тем, что все работы самые тяжёлые полевые сделаны, урожай собран, есть чем и «стол накрыть». Свадьбы проходили от «Пакроваў» до начала «Піліпаўскага» поста (27 ноября). В связи с этим народная мудрость гласит: «Да Пакроваў усё павінна быць звезена з поля, а хлопец з Пакроваў каб гатовы быў жаніцца…”.

Иркутская общественная организация «Белорусский клуб «Крывічы»» ставит перед собой основную задачу сохранения и популяризации древней традиции Беларуского народа.

В связи с этим в этом году мы собираемся провести Обряд «Пакровы» в деревне белорусских переселенцев Тарнопаль Балаганского района Иркутской области.

Праздник состоится 14 октября. Начало в 12 часов. Отъезд из Иркутска в 7-00.

Об условиях участия звоните нам по телефону: +7-902-17-068-30.

Наш праздник пройдёт по старинной традиции. Мы будем с песнями и Караваем ходить от дома к дому, «замыкать» Землю, «воровать» девушку. Всё это с песнями, прибаутками, весёлым задором.

А затем в школе в 14 часов состоится концерт, в котором примут участие Иркутский ансамбль аутентичного пения «Крывічы», Ансамбль «Марусенькі» села Тарнопаль и другие белорусские коллективы Иркутской области

Закончится наш Праздник традиционными белорусскими танцами!! Всех желающих научим танцевать!!!

Приглашаем к участию! Приходите к нам! С нами весело и интересно!!!



**Алег Рудакоў: Іркуцк святкуе “Дзяды-2018”**

Иркутский Белорусский клуб "Крывічы" приглашает 2 ноября на Исторический Вечер - "Дзяды", в «Дом Европы» по адресу:
г. Иркутск, ул. Фридриха Энгельса, 21 А !!! Начало в 18-30.

2 ноября для белорусов всего Мира - Святой День - День Поминовения Предков.

В этот День белорусы собираются вместе семьями, родами. Есть исторические свидетельства, зафиксированные этнографами ещё в 19 веке, что ранее белорусы, даже селяне, собираясь на святой день «Дзяды» большими семьями вспоминали своих предков минимум до 20 колена. Сейчас мало кто может похвастаться этим. Но возрождая, старинную традицию, мы должны стремиться к этому, изучать свои корни и передавать своим потомкам знания о пращурах.

Иркутский Белорусский клуб "Крывічы" приглашает всех белорусов и всех иркутян, интересующихся белорусской культурой и историей белорусского народа на совместный Вечер, чтобы изучить Обряд «Дзяды», понять его смысл, и может быть потом провести его со своей семьёй, дабы не забывать о своих предках и научить своих детей и внуков уважительному отношению к своим родичам.

Кроме самого Обряда «Дзяды» активисты Белорусского Клуба «Крывічы» расскажут о видных деятелях белорусской истории и культуры, которые в разные времена (от раннего средневековья до наших дней) внесли огромный вклад в развитие нашего народа.

Вход на мероприятие свободный.
Мы рады всем, независимо от национальности и возраста!!

Историческая справка: Как же наши предки проводили обряд "Дзяды" ранее?

Заранее мылись в бане, убирались в доме, вывешивали чистые рушники, занавески, застилали белой скатертью стол. Ближе к вечеру все дальние и близкие родственники собирались в доме у самого старшего из рода. Причём каждый приходил со своими припасами и блюдами. Накрывался богатейший стол, где обязательно присутствовали три обрядовых блюда: куцця, блины и кисель. Хозяйка дома ставила специальную посуду для Дзядоу́, куда от каждого блюда понемногу откладывалась еда. Эту еду нельзя было трогать в течении всего ужина, а затем её

отдавали беднякам. На столе предназначенном Душам умерших предков зажигалась Свеча. Она горела весь вечер, пока шла беседа. При необходимости свечи заменялись на новые.
Затем вставал хозяин дома, он же являлся главой Рода, и говорил ритуальные слова:

Сьвятыя Дзяды, завём Вас, хадзіце да нас, ляціце да нас!
Чымтолькі хата багата, штоёсць тут – я для Вас ахвяраваў!
Прыходзьце, Дзяды!
І старыя, і малыя, хто на гэтайсялібежываў, хлеба- соліядаў.
ПрыходзьцеДзяды!
Да свайго стала, да свайгопрыпечка, хлеба-солі засылайце, каб было чым душу памінаць год ад году, век ад веку.
ПрыходзьцеДзяды!
П'ю за Вас, продкі нашы сардэчныя, каб ведалі, што нічога не шкадую Вам.

В этот момент хозяйка дома, либо сыновья и дочери, открывали окна и двери и в молчании сидели несколько минут, давая возможность «Дзядам» войти в дом и отведать блюда. Если огонь свечи заколебался, считалось , что Души пришли в Дом.

Затем снова поднимался хозяин. Он вспоминал зачинателя их Рода, либо самого прославленного предка. Немного рассказывал о нём и предлагал выпить за его душу. Затем хозяин дома, либо кто-нибудь из его сыновей перечислял всех предков минимум до 10 колена, при этом давалась краткая характеристика положительных качеств. Например: «Дзед Мікола – добры быу́ каваль, прадзед Міхась – цудоу́на граў на цымбалах…» и т. д.

После этого начиналась трапеза. Во время ужина шла тихая «бяседа». Рассказывались приключения предков, описывались их характеры, вспоминались легенды связанные с Родом. «Бяседа» длилась до «3-их петухов». Было что рассказать нашим предкам о своих прародителях, тяжелее нам. В наше время память людская сильно укоротилась. Мы помним в лучшем случаи своих дедушек и прадедушек, но не далее.

Однако возрождая традицию "Дзядоў" и расспрашивая представителей своего старшего поколения, не только прямых, но и дальних родственников, копаясь в архивах, мы, я уверен, понемногу восполним нашу Память и с гордостью сможем рассказать о Своём Роде в несколько поколений!!!

Приходите на "Дзяды" !
Собирайтесь Своими Родами и Семьями!!
Помните о Предках и смело идите по Жизни Вперёд!!!
Алег Рудакоў. тел. 8-902-17-068-30.



**Some events of cultural life of Belarusian organizations abroad in 2018**
***(magazine "CULTURE, NATION", November 2018, issue 22, p.57-73,*** www.sakavik.net ***)***

In the section devoted to the events of cultural life of Belarusian organizations, a number of information is provided: about the celebration of the 70th anniversary of the Canadian Belarusian Association (ZBK), about performance dedicated to Larissa Heniyush, which was held in Toronto in April 2018, a poetic and musical party in Ottawa in September and presentation of book of poems "Kolery" ("Colours"), about various holidays in Irkutsk, "Kamaedzitsa", "Pakrovy", "Dzjady", sent by Aleg Rudakou. What makes Mr. Rudakov in Irkutsk is an outstanding example for many Belarusians not only abroad but also at homeland. We know that a lot of cultural, traditional festivals held in different parts of Belarus - the magazine "Culture. Nation" will be happy to publish any information about these Belarusian events.

*Паэзія*

**Юрась Шамецька**

Юрась Шамецька нарадзіўся і вырас у Менску. Аўтар кніг паэзіі “Шлях да вяртання” і “Атава”. Творы друкаваліся ў альманаху “Беларус“, часопісах “Дзеяслоў”, “Маладосць”, у газеце “Літаратура і Мастацтва“. З 1997 году жыве ў Атаве, Канада.

**Менскія вершы**

***

Мая прысутнасць не патрэбна...
Маё вяртанне немагчыма...
У Лошыцы квітнеюць вербы,
іх плоймы свецяцца пульсіўна...

Нажаль у сноў няма імёнаў,
шматкаляровымі зноў сталі...
Шумяць разгаістыя клёны,
а вуліцы хаваюць тайны...

Тралейбус коціцца маркотны...
Па Магілёўскай... Можа далей...
Гляджу на горад бесклапотны,
прыцішаны і ратавальны...

І добра -- горад падтрымае,
хоць ставіцца даволі строга,
бо не губляю, а шукаю
у горад свой сваю дарогу...

***

Зноў у Менску вясна!
Горад дыхае маем ...
Ці маўчаць, ці крычаць?
Назіранне рэалій...
Чыста вымыты брук...
Дзеясловы надхнення

я шукаю ў сабе, --
не хаваю здзіўлення...
Каляровы праспект...
Горад светлы, сталічны...
Гонар бачыць яго
фарбаў лёс гарманічны...
Гаманлівы прастор
пачуваецца вольным...
Зноў у Менску вясна!
Адчуванне бяздоння!

***

У Менску я не заблукаю...
Мне мапы болей не патрэбны...
На Далгаброцкай адшукаю
царкву, дзе ахрысцілі з небам...
Адчую лёгкасць захаплення...
Сквер перад Операй нязменны...
Я прымірусе з прыцяжэннем,
што зазывае ў горад светлы...

У Менску я не заблукаю...
Мой Менск падкажа прывітальна,
што да сябе яшчэ чакае
мяне на плошчы прывакзальнай...
Пацвердзіць даўнюю умову:
толькі сабе заўжды належыць
і, абмінаючы пакору,
ігнараваць законы межаў.

***

Не шукаю я пары змагання,
не чакаю тут пары дажджоў...
Ў Менск стары, як крылы для вяртання,
я білет шчаслівы не знайшоў.

Горад мой без золата і бронзы
ведае і славу, і прэстыж, –
ў скрыжаваннях вуліц святланосных
дасць знайсці мне ратавальны крыж.

Ўсе пытанні, ўсе мае адказы

зноў яму даверыць я гатоў, –
гораду, што выжыў і ў паразах
не зламаны дзідамі вякоў.

Ён аднойчы, растварыўшы межы,
акварэльных променяў дажджу,
вызначыць, зрабіўшы непазбежным,
шлях адзіны, па якім пайду...

**Вечаровае**

Пазычаю у часе немагчымасць спыніцца,
ў ціхай музыцы вальса чую голас сталіцы
і мінулага памяць небязплённа гартаю,
разумеючы мову нетаропкіх трамваеў.

Вечаровае неба, ад машын блікавіцы,
тонкім вокнам будынкаў рэха даўняга сніцца...
Залацістае сонца лёгка сходзіць па краю
і ў машынным патоке незваротна згарае.

**Снег у горадзе**

Я шукаю заспакаення…

Моўчкі стыне зімы сусвет...

Супакоем, нібы маленнем,

снег бароніць мяне ад бед...

Бель яго падаецца ўдачай,

нечакана прытупіць зрок...

Для сябе ж я раптоўна зазначу:

чысты снег так прыгожа лёг...

Снег... Машыны працуюць спраўна,

чысцяць вуліц прастор зямны,

і здаецца жыццё крыштальным

і пазбаўленым сівізны...
Цішыню белым час фарбуе,
тчэ нібыта аснову тайн,
асалоду надзеі чуе,
не прымае зямны падман.

Колькі раз гэты цуд я бачыў,
хваляваўся за лёс зімы
і знікненне сваё прадбачыў
у вясновасці цішыні...
А вакол снегу існа ўлада,
і сумненняў ужо няма.
Гэта праўда, вядома, праўда:
ачышчэнне жыцця – зіма...

**Ныраючы глыбей у возера Антарыа**

Вечар у верасні — цёплы і ветлы.
Ля пад’езда суседкі сядзяць.
Я на балконе, дзе песцяцца кветкі,
кніжку адкрыю і буду чытаць…
Будзе усё, як калісьці:
стомлена падае лісце.

Я паспрабую заплысці глыбей,
каб разглядзець дасканала
шалік дарогі і проста людзей

не абмінутага небам квартала.

Вецер на смак і салодкі, і горкі,

дрэвы старыя, бялізна, вяроўкі.

Кожнаму праўда свая і пятля,

кожнаму ў сталасці мудрыя спевы…

Бачу узор маладога галля,

чорныя вокны, пацёртыя сцены…

Час адыходзіць, і цяжка знайсці шлях,

па якому нам трэба ісці.

Я не шукаю вытокаў жыцця,

восенню неба схіляецца нізка…

І зразумела, што праўда ўся —

ў летняй празрыстасці, ў вуліцах Менска.

Толькі адно — немагчыма застацца

і, каб пазбегнуць кесоннай хваробы, трэба вяртацца.

***

**Чырвоны касцёл і старая Няміга…**

Мой горад стварае элегію стомы…
Я вуліц чытаю адкрытую кнігу,
якая напісана роднаю мовай.

Дамы як шматкроп’е…
Дрымотнасць прасторы…
Тут лёгка згубіцца у сценах квадратаў…
Мой горад, нібыта зіхоткае мора,
жадае стварыць незабыўнае свята.

Таемным даверам напоўняцца думкі…

А мне б на хвіліну да зорак узняцца,
каб бачыць старыя жывыя завулкі,
што ціха знікаюць, хоць мараць застацца.

І сёння, гуляючы ў горадзе светлым,
я бачу яго у агнях незлічоных і чую
свой голас над Свіслаччу ветлай —
павольны, ледзь гучны, але нескажоны.

* * *

**Мае вытокі — менскія «Шары»,**
«Карчы»,

ТЭЦ-3,

сляпянскія балоты,

стук даміно у сонечным двары,

адсутнасць храмаў з боскай пазалотай,

«хрушчоўкі» — пікасовыя кубы,

каштаны, што ў квітненні адпачылі…

Пакутнікі самоты — галубы

злятаюцца у пошуках месіі.

Квартальныя квадраты глыбіні

непустатой жыццёваю падкажуць,

як зберагчы ў адсутнасці цаны

гулліва сэнс расчуленых пейзажаў.

Мне б на «Шары» вярнуцца, хоць на міг, —

дзе я б ішоў па вуліцах так лёгка,

стос дачытаць недачытаных кніг,

паслухаць шум бясконцай «Магілёўкі»…

Там я жыву, гляджу, нібы кіно,

жыццё сваё, якое мне дазволіць

зноў адпусціць шары

і праз акно

глядзець: ляцяць

над горадам спакою.

**Зімовы вальс**

*маім Бацькам*

Гастраном «Вуглавы»
праз акно той кватэры,
дзе мы сёння адны
ў нашым горадзе белым,
там дзе пошук святла
стаў для нас спадзяваннем
у святле мы адшукаем
шлях свайго ратавання...

Снег ідзе за акном
мяккі і набрынялы,
а яго чысціня
хмарным небам саткана...
Мы ж, адчуўшы спакой,
зразумеем, -- мы тыя ж,
калі аур сваіх
чуем спевы жывыя...

А сцяна цішыні
і жыцця спадзяванні
ператвораць снягі
ў міфы новых паданняў:
як мы разам жылі
ва ўтульнай кватэры,
як ішоў за акном
снег у горадзе белым.

***

Заход восені...

Іней дадасць серабрыстай тугі...

Пераменіць аблічча
затоеных чэзлых ваколіц...
Фары хуткіх аўто
 і спагадны настрой nostalgie
зіхатлівым агнём
 наваколле жывое напоўніць...
Адчуваю, --
мне трэба спяшацца дамоў,
я ж стаю і кармлю
 нетаропкіх сівых галубоў...

Нацяжэнне між небам
 і вечнай душою – журба...
Расцуглянасць
зацятага ветру не цешыць...
Зачыняюцца вокны –
ахоўнікі рэшткаў цяпла,
што сыходзіць
і гораду больш не належыць.
Толькі сёння
 мой мірны настрой супадае
з асцярожнасцю
ціхіх самотных ускраін...

Да зімы вецер сцешыць
 жывы лістапад...

Прахалодай прастора трывожна

і стрымана дыша...

Не пужае, што восень мая –

залаты заняпад,

а пяшчота твая–

несканчальны працяг,

аб'яднанне спакою і стрыманай цішы...

Толькі добра адно!

Застаецца жаданне глядзець

на празрыстую восені медзь...

**Горад**

П.Ш.

Я намалюю дзіўны горад...
Ён стане жыць сваім жыццём...
Там вуліц доўгіх калідоры
усёахопным прагным днём
святлом таемным задаволяць,
пульсуючым жыццём напоўняць...

Агні запаліць вечны горад...
Сваю душу яму даверу,
пазней пачую ломкі голас
мінорных і нягучных спеваў...
Я вокны буду маляваць
і плошчы - мары ратаваць...

Я фарбай спелай урачыстай
падкрэслю вуліц прыгажосць,
дзе кожны дом – сусвет празрысты,
дзе брук пад праліўным дажджом --
святла бяздоннага палітра,
а цішыня -- мая малітва...

Вось горад чуласцю і згодай,
таемнай мудрасцю святла,

няспыннай прагай да свабоды
запоўніць пустку палатна...
І вуліц дасканалы строй
сваёй узрушыць глыбінёй...

**Начны ад’езд**

Будзільнік уначы,
шурпатыя прыступкі,
мой позірк доўгі ўніз,
там шолахі у смутку,
жалезны стогн дзвярэй
бяссонага пад’езду
і часу больш няма
да скорага ад’езду...
Чароўны бляск зямлі
пад месяцам нязменным,
утульнасць у двары
пад чорным небам дрэмле...
Дакладнае таксі
вязе мяне ўнапрамку,
таго, што не змяніць,
дзе не магчымы праўкі...
Свой лёс не прыпыніць...
Па радыё няспынным
жыццё спявае блюз,
імчыць праспект пустынны...
Мне ж хочацца спытаць:
“Чаму бывае часта,
нам трэбна ад’язжаць,
каб назаўжды застацца?”
Вось хутка мой палёт,
а мне падумаць цяжка
пра мой начны ад’езд...
І ў чым жыцця развязка?

***

Я дзякую Богу за міласць
вяртацца вясною дамоў,
адчуць прыцягальную сілу
з дзяцінства знаёмых двароў.

За вечнасць сталічнай шчадроты,
за бойкі, напружаны лёс,

за радасць на плошчы Свабоды
спазнаць суцяшальнасць нябёс...

Я дзякую Богу за міласць
пачуць мамін голас жывы,
за вуліц спагаду і шчырасць,
адсутнасць атрутнай тугі...

За шчасце ўсвядоміць палёгку
шторaз міласэрна і там,
дзе можна даверыцца зноўку
заўжды верна-чулым сябрам.

І дзякаваць Богу за міласць,
што нават з далёкіх краёў,
Ён даў мне жаданне і сілы
вяртацца вясною дамоў...

**Адлюстраванне**

Мой Менск – Атава... Хутка час ідзе...

Ужо не засталося адзіноты...

Маёй душы, як колам на вадзе,

патрэбен камень, -- я ж шукаю ноты...

О, колькі нас, раскіданых паўсюдна,

блукае марна ў вечнасці пакутнай...

Вось, шмат гадоў прайшло... А я ўсё той жа:

па зорак чыстых сталасць вывучаю,

паверыў я – жыццё мне дапаможа

пазбегнуць адзіноты і адчаю,

каб мець яшчэ магчымасць спадзявацца

па памяці шукаць сваё юнацтва.

Мой Менск – Атава... Што яшчэ дадаць?
Два горады падзеленыя даллю…
Я веру, што змагу іх аб’яднаць,
запамятаўшы смутак развітання...
Мая надзея застаецца марай,
нібы жэтон метро мной прыхаваны.

З прыемнасцю гуляю дзіўным летам
уздоўж ракі... Не задаю пытанняў...
Я горада пачую голас ветлы,
а гладзь ракі -- жыцця адлюстраванне...
Там, на вадзе, я родны Менск убачу,
і зноў знайду, а можа штосьці страчу...

**Yuri Chametka: “Mensk’ poems”**
**(*magazine “CULTURE, NATION”, November 2018, issue 22, p.74-85, www.sakavik.net*)**

Yuri Chametka was born and raised in Minsk. Author of poetry books "The Path to the return” and "Ottawa". Poems published in the Almanakh "Belarus", magazines "Dzejaslou", "Youth", in the newspaper "Literature and Art". Since 1997 he lives with his family in Ottawa, Canada. Now he presents a set of poems devoted to his lovely city Minsk.

**Пётра Мурзёнак: БЕЛА РУСЬ (паэма)**

Бела і Русь – як дзьве часткі сусьвету –
Белаю часткай – даўно ты з радзімай,
Русьсю – ты з Кіевам мудрым адзіная.
Ўжо ж закрасуеш!?
Дзе ты? Дзе ты?

I

Жыцьця сутарэньні, сумненьні, надзеі …
Спрабую убачыць яе ў вымярэньні
касмічным,
бо цесна ў зямельнай завеі –
хіба ў сусьвеце ляжыць вызваленьне.
Іграю на клавішах, музыкай, рытмам
і словы кладуцца па запаветах.
Са мной спалагоднеў бы Гандзі спрытны,
з якім вандраваў бы узімку і летам,
Шукаючы існасць, шукаючы розум,
які б меў магчымасць балансаваньня
між пахам і праўдай шыповых розаў,
між мараў юнацтва, што прагне каханьня.
Сумневу не чую, хоць маю што страціць,
ў рамантыцы подыхаў,
вартасьці сёньня,

ў запозненых прыгадах, сказаных маці,
вяртаючы думкі мае на прадоньне.
Да тых каранёў, дзе кранальная вечнасць,
дзе поўнай душою бы піў асалоду,
туды, дзе душа хоча чуцца бяспечнай,
адкуль уцякае бо крыецца лёдам.

II

Душа у камфорце і сёньня ёй добра
ў краіне далёкай, незразумелай,
а ў краі да сконца страчаным мною –
душа у спакоі, светлым і белым.
Вярнуцца туды? –
                ў кожны момант я ў краі!
Хто не паверыць?
                                ля рэчкі Дзісенкі,
шчыра я з горыччу часта блукаю
ад часу калі быў шчасьлівым-маленькім …
Душа спачывае у продкавым доме,
дзе посьцілкаў, грушаў пах мне знаёмы,
дзе шэпчуць пра блізкае родныя сьцены,
пра моц і пра дух на даўнейшай сцэне.

III

О мілы народ мой!  Цябе так люблю я!

Ну й што, што ў далёкай застаўся вандроўцы.

Душою з табою, нас толькі разлучыць

прырода, з адвечным адмоўным прыбоем.

Любоў мая моцніцца пэўнай надзеяй,

што некалі збудзецца! Збудзецца, пэўна ж!

Гены трывалыя – іх праз стагоддзі

не збілі з дарогі ідэі някрэўных.

Штучнае брацтва? З карысцю?  Навошта?

Каб жа ішло ад душэўнага сэрца.

Сквапнасць бязмерная прагне зняволіць

тое,

што мусіла б марыць аб волі.

Цяжка ўзляцець застрашанай з часам,

неасвятлёнай і замбаванай –

Бела Русь можа сілы набрацца

толькі ў заможнай спадчыне-пані!

IУ

Бела Русь выжывае ў паэмах!

бо найчысьцейшай яна ёсць на сьвеце,

для сваіх дзетак, што родзяцца ўзімку,

і для дзяцей, што з’яўляюцца ў леце.

Край ўзбагачаецца дзецьмі надзеі.

Хай ім пашчасьціць спадарыць у краі,
 дзе не няволяць,
  дзе жыта родзіць,
   дзе салаўёў песьні цешуць у маі.
А у сьвядомых – дзе б ні былі бы
Русь паўстае са стагоддзяў без хібаў
з часткаю Белай, з ёй назаўсёды,
Русь – гэта Кіеў, з Масквой – няма згоды.

У

Бог не памочнік – ў ім мала надзеі,
ад Бібліі тэкстаў сівеюць раны.
Над Бела Русьсю лютуюць завеі,
чужынцамі спадчына наша схавана.
То не спадзейся, браце, не можна,
на сілы чараў, інных народаў –
крокамі сьціплымі, асьцярожна
ад злых імперый к нормам прыроды.
Край абароніць няхай ад спакусы
на танную манну і абяцанкі
мудрасць людская, што ў беларусаў –
  дужэй яна злосці,
   мацнейшая танкаў.

УІ

Думы аддумаліся – марыць можна,
ад злосці, ад леннасці і ад адчаю,
апошняе ж крыкам крычыць аж тошна –
ня бачыцца выйсця сёньня для краю.
На выгляд – дык быццам збалансавана
пад пільным паглядам строгага бацькі;
пакуль Бела Русь – з беларускім панам,
было б горш і з тым, які “ганьбіць” маці.
Дратуюцца злом адраджэньня карэньні,
на нашу зямлю падсяліўся д’ябал,
на дачах гатуюць грыбы і варэньне,
свядомасці дух ля дарогі абапал.
Паглядваеш ты то на ўсход, то на захад,
на собскую Русь і на Русь “не ў законе” –
пасьвечанай быць пад царкоўным дахам
ці брацтва знайсці ў еўрапейскім вагоне?
Яшчэ не падняла сьцяг нацыі мілы,
ня мкнешся наўпрост да каштоўнасцяў сьвету,
сьціпла мацнеюць у роднай сілы,
каб існаваць, не згубіць прыкметаў.
Як утрымацца Бела Русьсю
і не з’яднацца з краінай ілжывай?
Белаю птушкай узняцца у высі
з вольным жыцьцём, адметным, праўдзівым!

УІІ

Жыцьця сутарэньні, сумненьні, надзеі …

Вякамі ад Полацка доўжыцца дзея.

Жыве Бела Русь у касьмічнай прасторы,

З “Пагоняй”, не з Богам, аб справе гаворыць.

Палёт той духоўны – ў ім спадчыны сіла,

ўзгадуе яна для краіны усходы.

Чакае адно – з зямлі голас народу –

“што глеба гатова і час ёй спрыяе,

што з пакаяньнем маўкліва чакае,

каб спадчына Белую Русь

навякі ў БЕЛАРУСЬ

асьвяціла”.

УІІІ

У космасе сьпеюць чароўныя сілы,

Злучаюцца ў лепшае для чалавецтва,

Прысьпешваюць час,

каб сьвет падзівіла

абраная жыць,

прыпыніўшы вечнасць.

**Piotra Murzionak: "Bela Rus"** ***(poem)***
(***magazine “CULTURE, NATION”, November 2018, issue 22, p.86-91, www.sakavik.net*** )

*Ад рэдакцыі*

**Падзяка часопіса "Культура. Нацыя" сп. Сяргею Панізьніку за супрацу**

Часопіс "Культура. Нацыя" вельмі ўдзячны сябру рэдкалегіі сп. Сяргею Панізьніку за дасылаемыя, каштоўныя матэрыялы, дапоўненыя архіўнымі, унікальнымі здымкамі.



У гэтым нумары мы публікуем яго нататкі "На беразе жыцця, на беразе Дзвіны", пра міжнародную экалагічную экспедыцыю, арганізаваную ў 1988 годзе Васілём Цімафеевічам Якавенка – празаікам, публіцыстам, грамадскім дзеячам. Матэрыял гарманічна ўзбагачаны здымкамі з той падзеі. Сп. С. Панізьнік даслаў таксама матэрыялы, прысьвечаныя 180-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Вельмі ўзрушана чытаецца пісьмо сп. Вольгі Грыцук, зямлячкі паэта С. Панізьніка, якое ён атрымаў 5 год таму назад, калі сп. В. Грыцук адзначала сваё 90-годдзе. Цяпер, сп. С. Панізьнік віншуе сп. В. Грыцук з 95-годдзем. Часопіс "Культура. Нацыя" далучаецца да гэтага віншававання, зычыць сп. В. Грыцук усяго найлепшага, і далучае ў нумар часопіса копію пазначанага пісьма сп. В. Грыцук. Сп. С. Панізьнік даслаў яшчэ іншыя юбілейныя матэрыялы – да 85-годдзя з дня нараджэння Ніны Янсанэ і да 75-годдзя з дня нараджэньня мастака Валерыя Дзевіскібы.

*Нататкі*

**Сяргей Панізьнік: На беразе жыцця, на беразе Дзвіны**

Гэта было вясной 1988 года. Ад 17-га да 30-га траўня па Дзвіне-Даўгаве праходзіла Экалагічная экспедыцыя пад дэвізам: “Мір – планеце, здароўе і моц – Зямлі!”

Натхняльнікам гэтай міжнароднай падзеі быў Васіль Цімафеевіч Якавенка – празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч. Гэта ён, эколаг, заўзята выступаў супраць знявечання прырэчча Прыпяці, у свой час заснаваў Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз “Чарнобыль”, выпускаў газету “Набат”… У памяць пра слаўнага чалавека пазначаю даты жыцця аўтара раманаў “Надлом”, “Пакутны век”, “Абярэг”: 5.05.1936 – 22.01.2018.

А той вясной на яго покліч адгукнуліся вучоныя, пісьменнікі з Расіі, Беларусі, Латвіі. Мы падарожнічалі то праваруч, то леваруч агульнай для трох народаў ракі. Даўжыня яе 1020 км., а ў межах Беларусі 335 км., дзе лірычна гучаць прытокі Дзвіны: Усьвяча, Палата, Дрыса, Сар”янка, Каспля, Лучоса, Дзісна, Друйка. Далучаю сюды і Мёрыцу, і Волту, на якой нарадзіўся. Удзельнікі мірнага пахода вывучалі экалагічны стан берагоў, а таксама помнікі гісторыі і культуры. Спецыялісты аналізавалі ўмовы гаспадарання і побыту насельнікаў. Па дарозе ад возера Ахват-Жаданне спыняліся ў Андрыянопалі, Веліжы, Віцебску, Бешанковічах, Полацку і Наваполацку, Верхнядзвінску, Друі, Краславе, Даўгаўпілсу, Екабпілсу і Крустпілсу, перш чым трапіць у Рыгу.. Гэта была другая пасля выступленняў супраць узвядзення Даўгаўпілскай ГЭС акцыя людзей розных нацыянальнасцяў у абарону зямлі, яе скарбаў, культурнага асяроддзя ў басейне Дзвіны-Даўгавы.

Самым шчырым і апантаным летапісцам той ужо гістарычнай падзеі аказалася латышка Айя Лацэ. Яна ў часопісе “Карогс” (“Сцяг”) па гарачых слядах надрукавала свой нарыс “З грэкаў у варагі”. Урывак з яго ў перакладзе з латышскай мовы Нінай Янсанэ (у дзявоцтве Панізьнік) быў змешчаны ў кнізе “Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі” (2003).

Там можна знайсці спасылкі і пра наведанне дэлегацыяй з трох дзяржаў Асвеі, Сар”і, Бігосава, вёскі Цінкаўцы на прыбярэжжы Дзвіны, дзе быў заснаваны мною этнаграфічна-краязнаўчы музей “Хата бабкі Параскі на Шляху з Грэкаў у Варагі” яшчэ ў 1979 г. У той сядзібе і начавалі “тры народы”. А сярод удзельнікаў экспедыцыі, арганізаванай Васілём Якавенкам, былі яго паплечнікі-аднадумцы ў

экалагіічных даследаваннях Віктар Плужнікаў, Іван Шкатулаў, сусед-расеец Вячаслаў Вераб’ёў.

Біялагічны факультэт Латвійскага ўніверсітэта закончыла Айя Лацэ. Працавала літаратарам, журналістам. Біялагічны факультэт закончыў і Эгілс Зырныс – журналіст, паэт, які і да гэтага часу працуе ў рыжскай газеце . Журналістам, празаікам зарэкамендаваў сябе Артурс Сніпс. Разам з Дайнісам Івансам ён выступаў супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Запомніўся і яшчэ адзін удзельнік латвійскай сябрыны – Юрас Кунас, этнограф, паэт, які працаваў у Этнаграфічным музеі прыроды Латвіі.

І літаратараў можна назваць краязнаўцамі-этнографамі-асветнікамі… Заўважу толькі, што ўдзельнік нашых прыгодаў быў рускі паэт, перакладчык Іосіф Васілеўскі, які доўгі час працаваў акторам тэатра…

Мы дазналіся, якім эколагам, сапраўдным нетразнаўцам роднай зямлі аказаўся перад намі рускі літаратар, творца так званай “вясковай прозы” Іван Афанасьевіч Васільеў. За кнігі нарысаў, у якіх даследаваў “зямлю вытокаў – Валдай”, і іншыя быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй імя М. Горкага, у 1986 г. стаў лаўрэатам Ленінскай прэміі. Пісьменнік змагаўся з духоўным апусташэннем вёскі. Для яго экалагічнае выхаванне – гэта маральна-этычнае выхаванне чалавека. І ён узвёў на сваёй радзіме Дом экалогіі – стварыў своеасаблівы маленькі ўніверсітэт. Бо, як пісаў Іван Ваасільеў: “Цынізм палітыкаў передаецца народу, у людзях знікае ўсялякае адчуванне сумлення”. І для выхавання здаровых нораваў людзей у вёсцы Боркі Вялікалукскага раёна і стаў дзейнічаць культурны цэнтр з музеем, бібліятэкай, выставачнай залай, Домам экалогіі ... Унікліва праседжваў у размовах з Іванам Васільевым і апантаны эколаг Васіль Якавенка: насычаўся яго думамі.

На працягу двух тыдняў працы нашай Экалагічнай экспедыцыі мы сустракаліся ў Полацку з пісьменнікамі Уладзімірам Арловым, Сержуком Сокалавым-Воюшам. Гутарылі з Сяргеем Навумчыкам, які ўзначальваў ініцыятыўную групу супраць будаўніцтва электрастанцый на Дзвіне ў Віцебскай вобласці. Цікава было пазнаёміцца ў Андрэанопалі з краяназнаўцам Э. Шымкевічам. Даведаліся, што ў 1950 г. быў устаноўлены слуп на месцы пачатку Заходняй Дзвіны (Эрыдана, Рубона, Дуны, Дзіны …). Выток яе – Дзвінец - у возеры Каракіна ў Цвярской вобласці, на Валдайскім узвышшы. Гэты ж Дзвінец упадае ў возера “Охват Желанье”.

З усіх нечаканасцяў і узрушэнняў згадаю мо толькі пра ўбачаны помнік вялікаму ўсясветнаму матэматыку (і не толькі) – Соф”і Васільеўне Кавалеўскай (1850—

1891). Ля музейнага будынка узгадаліся тыя беларускія эрытрацыты, якія і сёння журчаць па ўсім свеце …

То колькі ж гадоў Шляху з варагаў у грэкі, бо пачалі ж асвойваць яго недзе ў 9 – 11 стагоддзях? Праходзіў ён і каля румаў паблізу майго роднага Лявонпаля, злучаючы Прыбалтыку і Скандынавію з Паўднёвай Руссю і Візантыяй… Быў адным з асноўных фактараў утварэння і маёй (Белай) Русі. А дзе зараз той уцаркоўлены Царград?

На беразе жыцця, на беразе Дзвіны
стаіць вялікі рум яшчэ з часоў вайны.
Сцякае з бервяна жывіцы даўніна.
А беражэ той рум і Волта, і Дзвіна.
Здалёку чую гул сасновага камля:
нібы заве мяне прыдзвінская зямля.
А я Дзвіне –ніхто, пакуль (як ні лаўчы)
ляжаць мае сцягі, маўчаць мае мячы.
Здалёк свіціцца рум бурштынавай луской –
і воляй баравой, і доляю людской.
З яго я свой ганок вяжу… На быстраку
спазнаць жыццё ракі, спазнаць жыцця раку.

Так, жыццё гэтай ракі ўлілося і ў маё жыццё. Адгукнулася ў лёсе, у творчасці. Праплылі па рэчышчы рэчаіснасці і кінулі якар у Латвіі мая сястра, нашы з Нінай бацькі. Я многа гадоў-прыбояў аддаў служэнню зямлі Райніса ў стварэнні перакладаў, выданні кніг – і стаў кавалерам ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі. І сёння гэтая рака жыцця – на быстраку. Таму 30-годдзе той падзеі, калі мы бралі ў абдымкі выток з вусцем, зноў заіскрыліся на вёслах Памяці.



*Айя Лацэ, Уладзімір Арлоў, крайні справа - Сяргей Навумчык*



*Васіль Якавенка знаёміць прысутных насельнікаў
з мэтамі і задачамі экспедыцыі*



*Сустрэча ў Полацку з паэтам, бардам Сержуком Сокалавым-Воюшам
(на здымку справа).*



*Ідзе абмеркаванне экалагічнага стану прыроды.*
*У цэнтры групы В. Якавенка, справа - А. Лацэ*



*Васіль Якавенка і рускі пісьменнік Іван Васільеў*



*Госці і сябры Івана Васільева*
*(крайнія злева В. Якавенка, У. Арлоў)*



*Партрэт рыжскага этнографа і паэта Юрыса Кунаса (1944-1999)*



*Васіль Якавенка з Іванам Шкатулавым, Віктарам Плужнікавым, Вячаславам Вераб'ёвым, Іосіфам Васілеўскім (стаіць справа з кійком)*

*Юбілеі*

**Сяргей Панізьнік: ПАМЯЦІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**

*(да 180-годдзя з дня нараджэння)*

Рэвалюцыянер-дэмакрат, публіцыст, паэт Канстанцін Вікенцій сын Сямёна. Каліноўскі шляхецкага роду герба "Калінава" нарадзіўся 180 гадоў таму – 2 лютага 1838 года. Стаў кіраўніком нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863-1864 гг. Выдаваў "Мужыцкую праўду". Аўтар "Лістоў з-пад шыбеніцы". Не здрадзіў сваім ідэалам - і пакараны царскімі сатрапамі праз павешанне ў Вільні на Лукішскай плошчы 22.03.1864.

“Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце,
як калі чалавек у галаве мае розум і навуку.
Тады ён толькі магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе,
тагды ён толькі, памаліўшысь Богу, заслужыць неба,
калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць".

*Яська гаспадар з-пад Вільні.*

Хай не чапляецца зараза
Да нашых чыстых, мужных рук.
Таму й крычу, пакуль не ўмру:
"Ідзём, браты, да праўды разам! "

*(з верша Сяргея Панізьніка "Казанне пра Кастуся Каліноўскага")*

Каліноўскі блісьне маланьнёй:
Будуць вашы сэрцы разьвівацца
ў шырыню, каб у радню сабрацца, -
стануць непакорнай вышынёй.

*(з верша Сяргея Панізьніка "У радню сабрацца)*

Пра К. Каліноўскага чытайце таксама "Я адзавуся! Кніга пра Каліноўскага і Касінераў Свабоды". "Лімарыус", 2014. Укладанне С. Панізьніка на замову Аляксандра Фядуты.



*Партрэт Каліноўскага з львоўскага архіва часопіса "Sygnaly" (1930)*



*Партрэт Каліноўскага з віленскага архіва мастака Пётры Сергіевіча*




*Партрэт Каліноўскага з рыжскага архіва мастака-медальера Яніса Струпуліса*



*Помнік К. Каліноўскаму ў г.п. Свіслач Ваўкавыскага р-на. Фота С. П.*

**Сяргей Панізьнік: 95 год з дня нараджэння сп. Вольгі Грыцук**

Пра гэты юбілей сп. Вольгі Грыцук, найстарэйшага сябра ЗБК, нагадаў сп. С. Панізьнік. Як ён напісаў "9 кастрычніка 2018 года спаўняецца 95 гадоў ад нараджэння Вольгі, дачкі Васіля з роду Дуброўскіх - спадарыні Грыцук. Будзем памятаць мы, - не забудуць і нас...".




Рэдакцыя часопіса "Культура. Нацыя" цалкам згодна са сп. Панізьнікам, аб тым, што мы мусім з цеплынёй і любоўю ставіцца адзін да аднаго, і яшчэ ў большай ступені да нашых ветэранаў, якія паклалі шмат сіл для падтрымкі беларускасці ў замежжы. Мы зычым сп. В. Грыцук усяго найлепшага. Ніжэй падаём копію пісьма, напісанае сп. В. Грыцук да сп. С. Панізьніка, з нагоды яе 90-годдзя.

Kingston, 20. 11. 2013

Вельмі паважаны сп. Сяргей Панізьнік!

Ад шчырага сэрца дзякую Вам за увагу аддадзеную маёй асобе з маім 90-годдзям з дня нараджэньня. Сардэчна Вам дзякую за прысьвечаны для мяне вельмі прыгожы верш, а таксама за напісаныя артыкулы у газэтах „І жыве Беларусь на чужыне“ і „Мёрская даўніна“, а таксама у рускамоўнай газэце у „Чыкага“. Вельмі мне спадабаўся з цудоўнымі малюнкамі, мастацкія творы у „Пошуках Атлянтыды“. Усе гэтыя мясьціны, ёсьць для мяне родныя і дарагія.

Мой юбілей 90-годдзя быў для мяне вельмі прыгожым і прыемным. Радасную неспадзяванку зрабілі мне сябры З.Б.К. з Таронта. Прыехала старшыня З.Б.К спадарыня Валя Шаўчэнка з мужам Юрам, сп. Віялета Кавалёва і яшчэ адна спадарыня, новая эмігрантка, толькі на жаль я не магу прыпомніць яе прозьвішча.

2

Прывезьлі яны мне прыгожы букет з бел-чырвона-белых ружаў. Таксама перадалі мне верш напісаны ад спадарыні Вольгі Ігнатавай. Пару дзён пазьней я атрымала з Беластока 6 номераў газэты „Ніва", у якой быў зьмешчаны артыкул сп. Сяргея Чыгрына пра мяне. Усё гэта падзея вельмі мяне расчуліла і я глыбока у маёй душы схавала. Незабуду я ніколі, аж да канца майго жыцьця.

Дарагенькі спадар Сяргей! Шчыра Вам дзякую за ўсё, што Вы сваім учынкам так цёпла і прыгожа памаглі мне адсьвяткаваць мой юбілей.

З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі для Вас і Сям'і.

З глыбокай пашанай

Вольга Грыцук

**Сяргей Панізьнік: Да 85-годдзя Ніны Янсанэ**

*Ад рэдакцыі:* Сп. С. Панізьнік даслаў матэрыялы, прысьвечаныя сваёй сястры. Ніна Янсанэ, дачка Сьцяпана Панізьніка, нарадзілася 21 лістапада 1933 года. Часопіс зьмяшчае нататкі сп. Н. Янсанэ, з унікальнымі здымкамі сп. С. Панізьніка. Успаміны Н. Янсанэ былі надрукаваны ў газеце "Голас Радзімы".

*****

Родавыя мае карані — з Віцебшчыны, паблізу Мёраў і Дрысы — цяперашняга Верхнядзвінска. Даўней уся зямля на бабышаўскіх хутарах нашых была не безаблічная — названая. Скажам, на Пяткевічавы стаўкі хадзілі паласкаць вытканае палатно: вада там была дужа чыстая. Пайсці ў Вераб'і? Зналі куды: перайсці рэчку Волту, абагнуць Стручкі й Прорвы, гаёк Букет — і набраць у пушчы арэхаў. А частка пушчы й называлася так: Гарохаўе.

Каля нашай хаты ішла Французкая дарога: ад Слабады, дзе за Дзвіной стаяла Дрыса, ад Дрысенскага лагера 1812 года — на Друю. Ля гэтай Французкай дарогі непадалёку ад сядзібы Косціка Адамовіча расла купа тапаляў. Глянеш у кусты — і ўбачыш збуцвелы крыж. Ці не ў 1920-м, падчас руска-польскай вайны, забрыў сюды паранены салдат-расеец. Сканаў ваяка ў канаве. Пахавалі "бальшавіка" па-праваслаўнаму. Таму й хадзіла я ў школу "каля Бальшавіка". Пыталіся: "Куды бацька пайшоў абкошваць канаву?" Чулі: "Да Бальшавіка!"

Па ўкатанай дарозе можна ехаць з Мёраў праз Даўгінава, Кісьлякі, Латышы, Пуцінава ў Лявонпаль і далей на Слабаду. Наўпроць нашых Бабышак — поле. Яго акраец называўся Лядамі. А было даўным-даўно так. Наш сусед Стапан Лліннік купіў надзел, парослы густым лесам. Стаў карчаваць. Гібеў, пакуль не высвецілася чыстае поле, на якім ён і харом свой паставіў. Яшчэ ў 50?я гады на тых Лядах можна было пазнаць абрысы былой заможнай гаспадаркі.

Калі мама саліла гуркі (з ураджайных насёнаў, вымененых калісьці ў немца за сала), дзяцей адсылала ў Петракоў сад — насморгаць вішнёвага лісця для расолу. Петракоў сад стаяў на прыгожым узгорку над руччом. Гаспадарку ў глыбіні саду я заспела яшчэ паглядзець: дом, ток… Там жыў чалавек, якога звалі Петрачком, а яго жонку — Аўдоляй. Пасля іх смерці хата развалілася, а ток разабралі, калі ў нас у 1940-м пачыналіся калгасы. У садзе было многа яблынь, сліў, вішань. У 1943–44

гадах многія дрэвы далікатныя вымерзлі. Захаваўся вішняк у Петраковым садзе, які паслужыў і нам.

Пад ракою Волтай у Бабышках надзелы зямлі былі нарэзаны палосамі. Дзе жылі Грышка з Раманам (Панізьнікі) — была й бацькава паласа. Адна паласа называлася там: Ксяндзоў Луг. Надзел той належаў чалавеку з гумарам. Не помню, як яго звалі. Ён на вяселлях, хрэсьбінах выдумляў з сябе ксяндза. З пацешкамі, прыбабунькамі па-свойму браўся "вянчаць" маладых. Або ладзіў смешныя "ксціны", ад чаго госці нападпітку рагаталі ад прыдуманай ім забавы. На адным з вяселляў, калі адзін з гасцей "набраўся" й заснуў, дык гэты дзядзька "паніхіду" па ім адслужыў. Вось і пайшла прызыўка — "Ксёндз". Пазней гэты гаспадар сваю паласу прадаў Кісьляку Сяргею з Поплава над Дзвіной. А назва "Ксяндзоў Луг" так і засталася. "Куды гоніш статак пасьвіць?" — крычыць сусед суседу. Той адгукаецца: "На Ксяндзоў Луг!" Усе ведаюць, дзе яшчэ атава не выскубаная.

Калі я наведала пазней свае "былыя" Бабышкі, пабачыла: дзе была наша хата – зарослы быльнягом стугур: так у нас называюць узлобак, узгорак, узвышша... Прытулілася да роднай жульвіцы (вярба, ракіта. Кажуць таксама: жалівіца. Слова літоўскага паходжання. — Рэд.), яна яшчэ харахорылася на былой мяжы з соткамі бабулькі Альжбеты. Воддаль відаць была хата даўняга суседа Белавуса Васіля ("Магіром" празывалі). Сцены абадраныя, а вывезці на дровы бярвенні з бабышкаўскай "ямы", пэўна, было немагчыма. На месцы агародчыка мамінага з урадлівым чарназёмам праз іржавыя пласты гліны праступае аер. Даўно ў сцюбурах пустазелля і Французкая дарога. І не скажаш: "Дзе была ніўка, там пожанька стала"…

Бацькі мае жылі пры першых саветах, пры паляках, пры другіх саветах, пры немцах… Такі ў нас мелі заходне-беларускі чысьленнік (каляндар). Вайной наша бабуля Ганэта хавалася пад Мёрамі ў балоце "Мох". Каб прагнаць яе сына-партызана з ягоным атрадам, карнікі пайшлі праз балота на гумовых лыжах. Бабуля сядзела ў твані й дыхала праз чарацінку — так і ўратавалася. А многіх нашых сваякоў, якія сядзелі на купінах, і выстаўленыя наперад іконы не ратавалі. Тое ўрочышча пад назвай Гулякі запомнілася бабулі ад вокрыку суседкі: "Загарэліся Гулякі ззаду, спераду, з бакоў…"

Мацярык наш цікавы. Родзічы жылі на хутары Латышкі, я хадзіла ў школу ў вёску Латышы. А й пры немцах вучылі нас там па-беларуску. Знала на памяць усю паэму Якуба Коласа "Новая зямля". І цяпер магу ўспомніць урыўкі. Пазней вучылася ў

мястэчку Лявонпаль. Ад млына Пяткевіча ў Смульках міналі бор, за якім пачыналася Пажарка. Чаму такая назва? Бо канец мястэчка спалілі яшчэ шведы. Людзі запомнілі няшчасце.

У Лявонпалі ж любілі хадзіць на Міколкаву гару, дзе калісьці былы гаспадар Лявонпаля трымаў звярынец. Праз былую аранжарэю графа Лапацінскага траплялі на прыбераг Дзвіны — Заборку, Паплавы. Калісь славутае мястэчка шырылася ад Пажаркі да ручая Каменка пад Грудзінавам. Там і па сёння стаіць славуты помнік — гэта Калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года. (Тую Канстытуцыю называюць яшчэ: Ustawa rzadowa. Гэта быў асноўны закон Рэчы Паспалітай, прыняты Чатырохгадовым соймам 1788–91 гадоў у Варшаве. Яна абвясціла суверэннасць Рэчы Паспалітай як унітарнай дзяржавы, ліквідавала падзел на Карону й Вялікае Княства Літоўскае. Адначасова кароль захаваў тытул Вялікага князя Літоўскага. У ВКЛ засталося асобнае судаводства, свой скарб, прадугледжвалася роўнае прадстаўніцтва ў сойме й ягоных камісіях. Месцам правядзення соймаў вызначана Варшава, але яны маглі адбывацца раз на 3 гады ў Гародні. Канстытуцыя складалася з 11 артыкулаў. Першы тычыўся рэлігіі, тры наступныя вызначалі стан шляхецтва, мяшчанства й сялянства, астатнія — месца і ўзаемнае размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад. Згодна з Канстытуцыяй 3 мая адмяняліся “ліберум вета”, выбары караля шляхтай і абавязковасць соймікавых “інструкцый” для паслоў, уводзілася спадчынная манархія, у якой выканаўчая ўлада перадавалася каралю і ўраду, падпарадкаванаму сойму. Канстытуцыя 3 мая абвясціла таксама, што бярэ сялянства “пад апякунства ўрада”, даючы надзею на паляпшэнне ягонай долі. — Рэд.) Праўда, у школе не давалі нам веды па гісторыі роднага берага. Але пазней дазналася, што калісьці на месцы Лявонпаля стаялі Лількі. 450 гадоў назад была пазначана ў нейкіх дакументах новая назва: Чурылавічы. 215 гадоў таму ўзнікла найменне Лявонпаль: хто называў яго Леванполем, хто — Люмполем…

І мой род мае даўнюю гісторыю. Бацька — Сцяпан Панізьнік, мама ў дзявоцтве — Нюра Сялюн, а яе мама Ганэта ў дзявоцтве — Падабыцька. Былі ў маім родзе й таемныя Танайны. Да сваячкі Домны Танайны мы хадзілі ў Дварчане. Міналі Прудзінкі. Цікава, што сама вёска мела прызыўку — Гіня (“г” у слове ўзрыўное). Бо там калісьці стаяла карчма. “Куды палез, у карчму? То й загінеш там…” — асцярожвалі людзі няўстойлівага суседа. Адсюль і Гіня.

Бабышкі мае засталіся ў памяці велічальнымі Велікоднымі песнямі, “Алялюем”, Калядкамі… А таксама жывымі прыбабунькамі, павучаннямі, вясёлашчамі.

Памятаю з таго часу: “Хто мяняіць — па тым хамут гуляіць” (у беларусаў яшчэ ёсць варыянты гэтай прымаўкі: “Хто мяняе, у таго хамут гуляе” і “Хто часта коні мяняе, у таго хамут гуляе. — Рэд.), “З галавой не дагаварыўся, то й да ног ня сунься”, “Якое дрэва, такі й клін; які бацька, такі й сын”…

Помніцца мне ўсё такое гучальнае наваколле з вёскамі Брыжалюбкі, Брэдзева, Буралом, Дарожкі, Званкі, Карандышы, Кульвока, Мальцы, Панізьнікі, Пятрэлева, Сташулі, Тараракі… Прычым усе словы былі ў мяккім маўленні, з неперакручанымі азначэннямі. У Міхасінках, расказвалі, калісьці мужыкі скінулі ў рэчку Волту 15 забіякаў-французаў. Так ім было й нада! А сястрыцай Волты лічу і Влтаву ў Чэхіі, ды й раку Олт у Румыніі… Мае продкі збіраліся да Волты з featured рознага свету, а потым адтуль — ужо нас — параскідаў лёс па розных прагалах. З 1951 года я жыву ў Латвіі. Калі ў 1998-м надавалі мне латвійскае грамадзянства й трэба было прамаўляць прысягу дзяржаве, я з тае нагоды папрасіла прабачэння ў Беларусі: бо я ж па-ранейшаму дачка сваёй Бацькаўшчыны, свайго Радаводнага Мацерыка. То й сягоння застаюся ягонай крэўнай.



*Ніна з Уладзімірам Караткевічам і Рыгорам Барадуліным.*
*Каўгуры, 17.07.1966 г*




*Ніна з Валянцінай і Рыгорам Барадулінымі.*
*Мінск, 1967 г.*




*Партрэт Панізьніка Сьцяпана мастака В. Дзевіскібы*

**Сяргей Панізьнік: Ва ўшанаванне 75-годдзя з дня нараджэння мастака Валерыя Дзевіскібы**



*В.Ф. Дзевіскіба*

Валерый Дзевіскіба (25.11.1943-19.10.2001), таленавіты чалавек з трагічным лёсам, які вымушаны быў з'ехаць у 1992 г. з натхнённай Рыгі ў Новую Мільчу, "мастак з беларускай душой", як сказаў пра яго Вячка Целеш.

Калі ў Гомелі Валерыя не стала, жонка Лідзія звярнулася да мяне з просьбай аб дапамозе устанавіць помнік на яго магіле. Паспрыялі мне пісьменнікі Вячаслаў Рагойша, Адам Мальдзіс. Я ім перадаў па партрэту з калекцыі Дзевіскібы, а яны наўзамен самі пераслалі на адрас Лідзіі сродкі для ўстаноўкі помніка. У Гомелі наведаць мастака яшчэ паспеў пры яго жыцці Яўген Лецка.

У кнізе "Крывіцкія руны-2" можна прачытаць на стар.337-342 успаміны Вячкі Целеша пра Валерыя Дзевіскібу: "Мастак з беларускай душой". Валеры Дзевіскіба, беларус, народжаны ў гітлераўскім канцлагеры на тэрыторыі Польшчы. Дапамаглі яму выжыць палякі Стэфа і Богдан Завірухі. У касцёле горада Лодзі і быў ахрышчаны Валеры-Лявонты.

Я пісаў пра мастака ў газеце "Літаратура і мастацтва" : "З Юрмалы - у Гомель" (31 снежня 1993 г.), і "Беларусь была роднай" (10 снежня 2004 г.). А таксама ў газеце

"Культура": "Анёл-абаронца Валеры Дзевіскібы..." (№ 47, 25 лістапада-1 снежня 2000 г.).

Узгадаю некаторыя зьвесткі пра ўдзельніка выставы "Мікола Гусоўскі і яго час" (Мінск, 1980 г.). Ён стварыў мастацкія вобразы Ф. Скарыны, В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Гусоўскага, М. А. Агінскага, М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, С. Манюшкі, В. Цяпінскага, К. Каліноўскага... Сустрэўшыся ў юрмальскім доме творчасці (Дубулты) з Р. Барадуліным, У. Караткевічам, У. Калеснікам, У. Дамашэвічам, Ф. Янкоўскім, не губляў з імі сувязі. Сяббраваў з Я. Куліком. Працы В. Дзевіскібы рознай тэматыкі трапілі ў свой час у прыватныя зборы У. Арлова, А. Лойкі, А. Мальдзіса, У. Сакалоўскага, Э. Ялугіна, Я. Лецкі ...

Прапаную з свайго архіва некалькі здымкаў.



*"Францыск Скарына", В. Дзевіскіба*



*"Мікола Гусоўскі", В. Дзевіскіба (1980)*



*Уладзімір Арлоў, Яўген Лецка, Валерый Дзевіскіба,*
*Вячка Целеш, Сяргей Панізьнік*
*(каля помніка Крыш'яну Барону, Рыга, 1986)*



*Сяргей Панізьнік, Валерый Дзевіскіба, латышскі мастак Айварс Калбэ*
*(у рыжскай майстэрні, 1988)*



*Партрэт С. Панізьніка, В. Дзевіскіба*

**Siargei Paniznik: Information to Issue 22 of the magazine "CULTURE, NATION", November 2018, p.93-115,** www.sakavik.net

The magazine "Culture. Nation" is very grateful to the editorial board member, Sergey Paniznik for his valuable materials, supplemented by archival, unique pictures. In this issue we publish his notes "On the shore of life, on the bank of Dzvina" – about the international ecological expedition in 1988 organized by Vasily T. Yakavenka, novelist, publicist, public figure. The material harmoniously enriched with photos from the event. S. Paniznik also sent materials on the 180 anniversary of the birth of Kastus Kalinouski. He provided as well a very touchy letter from Wolga Grytsuk he received 5 years ago, when W. Grytsuk celebrated her 90th anniversary. Now, S. Paniznik congratulates his compatriot, Mrs. W. Grytsuk with 95th anniversary. The magazine "Culture. Nation" joins to these congratulations wishing W. Grytsuk all the best, and attaches to the issue a copy of this letter. S. Paniznik sent other materials – to the 85th anniversary of Nina Jiansane, and to the 75th anniversary of the birth of the artist Valeryj Dzeviskiba.

*Каляндар важнейшых дат у жыцьці беларусаў у 2019 годзе*

**Юбілейныя дні нараджэньня паэтаў і пісьменьнікаў**

**СНЕЖАНЬ 2018**

220-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча
100-годдзе з дня нараджэння Кастуся Кірэенкі
95-годдзе з дня нараджэння Анатолія Вялюгіна

**СТУДЗЕНЬ 2019**

150-годдзе з дня нараджэння Ядвігіна Ш.
120-годдзе з дня нараджэння Міхася Лынькова
115-годдзе з дня нараджэння Алеся Якімовіча

**ЛЮТЫ 2019**

105-годдзе з дня нараджэння Аркадзя Куляшова

**САКАВІК 2019**

205-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі
90-годдзе з дня нараджэння Еўдакіі Лось

**МАЙ 2019**

115-годдзе з дня нараджэння Адама Русака
115-годдзе з дня нараджэння Паўлюка Труса

**ЧЭРВЕНЬ 2019**

95-годдзе з дня нараджэньня Васіля Быкава

**ЛІПЕНЬ 2019**

150 гадоў з дня нараджэння Вітана-Дубейкаўскага (Дубяйкоўскага) Лявона Іванавіча (1869 – 1940), беларускага паэта, архітэктара

**ЖНІВЕНЬ 2019**

470 гадоў з дня нараджэння Радзівіла Мікалая Крыштова (мянушка Сіротка) (1549 – 1616), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната, пісьменніка

**ВЕРАСЕНЬ 2019**

160 гадоў з дня нараджэння Эпімаха – Шыпілы Браніслава Ігнатавіча (1859 – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца

**КАСТРЫЧНІК 2019**

135 гадоў з дня нараджэння Ждановіча Фларыяна Паўлавіча (1884 – 1937), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра

**ЛІСТАПАД 2019**

29 лістапада - 160 гадоў з дня нараджэння Янчука Мікалая Андрэевіча (1859 – 1921), беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста і пісьменніка, этнографа, фалькларыста, літаратуразнаўца, антраполага

**СНЕЖАНЬ 2019**

115 гадоў з дня нараджэння Дудара Алеся (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч) (1904 – 1937), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка

************

**390** гадоў назад нарадзіўся Сімяон Полацкі (сапр. Пятроўскі–Сітніяновіч Самуіл Емяльянавіч) (1629 – 1680), беларускі і рускі грамадскі і царкоўны дзеяч, пісьменнік, публіцыст і педагог

**385** гадоў з дня нараджэння Казіміра Лышчынскага (1634 – 1689), беларускага мысліцеля

**220** гадоў назад нарадзіўся Баршчэўскі Ян (1799, паводле іншых крыніц 1790, 1794, ці 1796 – 1851), беларускі і польскі пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

**Каляндар гістарычных дат**

**1 студзеня 1919 года створана Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка (БССР)**

| | |
|---|---|
| **1045** | гадоў назад (974) паводле Віцебскага летапісу кіеўскай княгіняй Вольгай заснаваны Віцебск |
| **1000** | гадоў назад (1019) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Брэст (Берасце, Бярэсце) |
| **975** | гадоў з пачатку будаўніцтва (1044) у Полацку Сафійскага сабору (будаўніцтва скончана ў 1066 г.) |
| **975** | гадоў з часу княжання (1044 – 1101) у Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем |
| **975** | гадоў назад (1044) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Навагрудак (Новогород, Новогородок) |
| **960** | гадоў назад (1059) у летапісах упершыню ўпамінаецца Копысь як горад Полацкага княства |
| **915** | гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай (свецкае імя Прадслава) (каля 1104 – 1173), беларускай асветніцы |
| **860** | гадоў назад у летапісах упершыню ўпамінаецца Чачэрск |
| **745** | гадоў назад (1274) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Капыль |
| **735** | гадоў назад (1284) войскі літоўскага князя Рынгальда разграмілі мангола-татарскія войскі каля вёскі Магільна (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці) |
| **605** | гадоў назад (1414) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Глыбокае |
| **580** | гадоў назад (1439) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Лепель |
| **575** | гадоў назад (1444) Гродна атрымаў поўнае самакіраванне паводле магдэбургскага права |

| | |
|---|---|
| **565** | гадоў назад (1454) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Стары Мядзел (цяпер г. Мядзел Мінскай вобласці) |
| **525** | гадоў назад (1494) горад Высокае атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **525** | гадоў назад (1494) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Косава (Косаў) |
| **520** | гадоў назад (1499) Мінск атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **515** | гадоў з часу ўтварэння (1504) Полацкага ваяводства |
| **515** | гадоў назад (1504) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца в. Будслаў (Буда, Буцлаў, Будцлаў) Мядзельскага раёна |
| **505** | гадоў назад (1514) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца Мёры |
| **490** | гадоў з часу ўвядзення (1529) Першага Статута Вялікага княства Літоўскага, збора законаў айчыннага феадальнага права |
| **485** | гадоў назад (1534) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Сянно |
| **490** | гадоў назад (1 ліпеня 1569 г.) заключана Люблінская унія – урачыстае абвяшчэнне пра аб'яднанне на аснове роўнасці Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую |
| **450** | гадоў назад (1569) Радашковічы і Дзісна атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **445** | гадоў з часу заснавання (1574) у Вільні друкарні братоў Мамонічаў (дзейнічала да 1623 г.) |
| **445** | гадоў з часу выдання (1574) Сымонам Будным у мяст. Лоск каля Валожына Новага Запавету |
| **440** | гадоў назад (1579) Гродна стаў рэзідэнцыяй караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Стэфана Баторыя |
| **430** | гадоў назад (1589) Кобрын і Пружаны атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **420** | гадоў назад (1599) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Вілейка |

| | |
|---|---|
| **385** | гадоў назад (1634) Чавусы і Бешанковічы атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **295** | гадоў назад (1724) створана Нясвіжская капэла Радзівілаў (існавала да 1809 г.) |
| **290** | гадоў назад (1729) заснавана Пінская друкарня (існавала да 1746 г.) |
| **250** | гадоў назад (1769) у в. Бабоўня (Капыльскі раён) заснавана суконная мануфактура |
| **250** | гадоў з пачатку дзейнасці (1769) у Гродна тэатра Тызенгаўза (дзейнічаў да 1780 г.) |
| **250** | гадоў з часу заснавання (1769) шклозавода “Залессе” ў мяст. Ілля |
| **245** | гадоў назад (1774) у Гродна створана музычна-тэатральная школа Тызенгаўза (існавала да 1780 г.) |
| **225** | гадоў з пачатку паўстання (1794) у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі |
| **225** | гадоў з часу ўтварэння (1794) Віленскага генерал-губернатарства (існавала да 1912 г.) |
| **215** | гадоў з дня нараджэння Гарбачэўскага Мікіты Іванавіча (1804 – 1879), беларускага архівіста, мовазнаўца, педагога |
| **215** | гадоў назад (1804) завершана будаўніцтва Агінскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Дняпра |
| **210** | гадоў з часу заснавання (1809) у Магілёве першай у Беларусі метэаралагічнай станцыі |
| **210** | гадоў назад (1809) у Магілёве на базе галоўнага народнага вучылішча адкрыта першая гімназія |
| **195** | гадоў з часу выдання (1824) “Беларускага архіва старажытных грамат”, першага зборніка па гісторыі беларускіх зямель |
| **190** | гадоў з пачатку дзейнасці (1829) Беларускай навучальнай акругі |
| **180** | гадоў назад (1839) скончана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Бебжы (басейн Віслы) |
| **180** | гадоў назад (1839) заснавана метэаралагічная станцыя ў Гродна |
| **160** | гадоў назад (1859) уведзена ў эксплуатацыю першая ў Беларусі тэлеграфная лінія Мінск – Бабруйск |

| | |
|---|---|
| **155** | гадоў назад (1864) заснавана Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (існавала да 1920 г.) |
| **150** | гадоў назад (1869) пачалося будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (скончылася ў 1878 г.) |
| **145** | гадоў назад (1874) у Гомелі заснаваны галоўныя механічныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі (у далейшым Гомельскі вагонарамонтны завод) |
| **140** | гадоў назад (1879) заснавана Навабеліцкая запалкавая фабрыка “Везувій” (з 1944 г. Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат) |
| **135** | гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1884) чыгуначнай лініі Вільня – Пінск |
| **135** | гадоў з часу пабудовы (1884) Пінскага параходабудаўнічага завода (з 1939 г. суднарамонтны завод) |
| **120** | гадоў назад (1899) заснавана Мінская абласная бібліятэка імя А.С.Пушкіна (адкрыта 25 снежня 1900 г.) |
| **115** | гадоў назад (1904) у Брэсце адкрыта жаночая гімназія |
| **110** | гадоў назад (1909) у Брэсце быў адкрыты першы кінематограф |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Минской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Полоцко-Витебской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі Беларусі |
| **110** | гадоў з пачатку дзейнасці (1909) настаўніцкай семінарыі ў Рагачове (дзейнічала да 1919 г.) |
| **110** | гадоў з часу выдання (1909) у Гомелі грамадска-палітычных і літаратурных газет “Полесье” і “Полесская жизнь” |
| **105** | гадоў з часу стварэння (1914) у Мінску кампазітарам У.В.Тэраўскім аднаго з першых беларускіх харавых калектываў |
| **100** | гадоў назад (1919) заснавана Віленская беларуская гімназія (існавала да 1944 г.) |
| **100** | гадоў назад (1919) у Магілёве адкрыта музычная школа, адна з першых у Беларусі (з 1937 г. музычнае вучылішча імя М.А.Рымскага–Корсакава, з 2009 г. Магілёўскі дзяржаўны |

| | |
|---|---|
| | музычны каледж імя М.А.Рымскага–Корсакава) |
| **65** | гадоў з часу ўрачыстага адкрыцця (4 ліпеня 1954 г.) у Мінску манумента Перамогі – помніка воінам Савецкай Арміі і партызанам, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў |
| **50** | гадоў назад (5 ліпеня 1969 г.) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Курган Славы” |

**Calendar of important events in the life of Belarusians in 2019**
***(magazine “CULTURE. NATION”, November 2018, issue 22, p.116-122;*** *www.sakavik.net)*
In this issue: Calendar of wrirers’ and poets’ birthdays, and Calendar of historical dates.

*Наступны 23-ці нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў красавіку 2019 года*